БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ Змена

ВЫДАЕЦЦА З 1921 ГОДА

ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ

№ 23 (13555)

1—7 чэрвеня 1992 года

Цана 3 рублі



Фота Я.Пясецкага

## СТОП-ФАКТ

# Да 925-годдзя Мінска

Юбілею беларускай сталіцы быў прысвечаны фестываль міжнароднай дзіцячай творчасці, які прайшоў 31 мая ў цэнтральным парку імя М.Горкага.

Святочная праграма ўключала тэатралізаванае адкрыццё, выступленне лепшых дзіцячых ансамбляў Мінска і Беларусі, іх гасцей з Балгарыі, Расіі, Украіны.

Канцэрты на эстрадных пляцоўках праходзілі з раніцы да вечара. На галоўнай эстрадзе парку з вялікім поспехам выступілі вядомыя дзіцячыя ансамблі "Мульцік", "Гарэзлівыя агеньчыкі", "Батлейка", іншыя мінскія калектывы, госці з Кіева, Смаленска, Салігорска, Магілёва, іншыя юныя самадзейныя артысты.

У парку імя Чалюскінцаў святочны канцэрт скончыўся выступленнем фальклорнага калектыву Беларускага тэхналагічнага інстытута. Масавікі правялі конкурс дзіцячага малюнка. На спартыўных пляцоўках адбыліся самадзейныя турніры валейбалістаў, шахматыстаў, шашыстаў.

Святочныя юбілейныя гулянні праходзілі і ў іншых парках сталіцы.

В. Астрынскі.

# Чароўная выстава

Зіхаценнем граняў і багаццем фарбаў камяні выклікаюць захапленне, часам — здзіўленне. Трымаеш камень у руцэ, нібы да самой вечнасці дакранаешся. Прываблівае не толькі знешняя прыгажосць, але і той загадкавы, таямнічы свет, што закладзены ў камені самой прыродай. Зазірнуць у гэты цудоўны свет дапаможа выстава-продаж "Таямнічы свет каменя", якую праводзіць Музей землязнаўства геаграфічнага факультэта Белдзяржуніверсітэта і прыватныя калекцыянеры.

Наведвальнікам прапаноўваюцца камяні з усіх кантынентаў планеты. Сярод экспанатаў выставы такія прыгожыя натуральныя камяні, як онікс, аметыст, яшма, агат, бурштын, лазурыт, малахіт, чараіт, высакародны апал, ізумруд, жэмчуг, рубін і інш., а таксама вырабы і ўпрыгажэнні з натуральных камянёў, якія можна набыць па даволі даступных цэнах.

— Камень чаруе, лечыць, вабіць, захапляе і ў дарогу кліча,— зазначыла супрацоўнік Музея землязнаўства Валянціна Лявонцеўна Смалякова.— Мы запрашаем усіх на нашу выставу, дзе можна не толькі купіць, але і абмяняць рэдкія камяні, якія ўпрыгожаць любую калекцыю і інтэр'ер кватэры. Тых, хто хоча даведацца пра свае камяні-талісманы або пра рэкамендуемыя астролагамі камяні ці нават набыць іх, мы таксама запрашаем да нас. Дарэчы, білет для дарослых каштуе 5 рублёў, для студэнтаў — 3 рублі, для дзяцей — 2. Аднойчы куплены білет застаецца сапраўдным, і наведвальнік можа прыходзіць па гэтаму білету колькі пажадае. Вырučаныя ад выставы грошы будуць пералічаны на рахунак геаграфічнага таварыства Беларусі.

Сяргей Вішнеўскі.

# Дабрачыннасць пакуль што існуе

*Нягледзячы на палітычную і эканамічную неразбярыху, што пануе зараз навокал, стала добрай традыцыяй правядзенне дабрачынных акцый.*

Выканкам Кастрычніцкага райсавета народных дэпутатаў г.Мінска і Беларускае тэлебачанне таксама прынялі ўдзел у гэтай святой справе. Так, другога чэрвеня ў Палацы культуры і спорту чыгуначнікаў імі быў праведзены дабрачынны тэлеаўкцыён, увесь прыбытак ад якога будзе пералічаны ў раённы фонд "Надзея" для малазабяспечаных жыхароў Кастрычніцкага раёна горада.

На аўкцыёне для продажу былі прадстаўлены трохпакаёвая кватэра і памяшканні пад офісы, месца для ўстаноўкі гандлёвых кіёскаў і ізаляваныя бамбасховішчы, аўтамабіль ВАЗ і крама, якая яшчэ будуецца, тэлевізар, мэбля, будаўнічыя матэрыялы і кодры, адзенне і... Адным словам, тавараў было шмат. Але і пакупнікоў таксама хапала.

Асаблівую ўвагу ўдзельнікаў прыцягнула трохпакаёвая кватэра. Нягледзячы на тое, што яна знаходзіцца на першым паверсе, і будынак, дзе кватэра размешчана, пабудаваны ў 47-м годзе, яна (пры стартавым кошце 350 тысяч рублёў) пасля даволі доўгай баталіі паміж пакупнікамі была прададзена за 1 600 000 рублёў!

На аўкцыёне выявілася, што беларусы не вельмі вераць у нейтралітэт сваёй рэспублікі. Таму бамбасховішчы 30 кв.м (стартавы кошт 20 000 рублёў) і 80 кв.м (40 000 рублёў) былі прададзены ў некалькі разоў даражэй: адпаведна за 80 і 100 тысяч рублёў.

А вось будавацца ў нас не любяць. Хочаш не хочаш, а прыходзіцца рабіць такі вывад: усе будматэрыялы, прадстаўленыя на аўкцыёне, былі пакінуты пакупнікамі без увагі.

Калі нумар "Чырвонай змены" рыхтаваўся да друку, было яшчэ невядома, які ж прыбытак прынёс тэлеаўкцыён. Але адно можна сцвярджаць дакладна: калі ўсе грошы, атрыманыя на ім, дойдуць да малазабяспечаных людзей, гэта будзе немалая дапамога.

(Ул. інф.).

## У апошнюю хвіліну

# АКТ ВАНДАЛІЗМУ Ў КУРАПАТАХ

Калі гэты нумар быў падрыхтаваны да друку, у рэдакцыю патэлефанавалі з хрысціянскай арганізацыі "Курапаты" і паведамілі, што ў гэтым святым для кожнага сапраўднага беларуса месцы пад Мінскам знішчаны крыж з надпісам, пастаўлены ў памяць ахвяр сталінскіх рэпрэсій. Аб прычынах і падрабязнасцях гэтага святатацтва мы абавязкова паведамім у наступных выпусках.

(Ул. інф.).

## Толькі для вас

# ШТО РАБІЦЬ З "АДНАРАЗОВЫМІ" КУПОНАМІ?

Пасля адмены ўсім вядомых аднаразовых купонаў многіх турбуе пытанне: куды ж падзець гэтыя паперкі, якіх дома назбіраліся цэлыя стосы? Некалькі тыдняў таму ў друку з'явіліся паведамленні, згодна з якімі "аднаразовыя" купоны будуць абменьвацца на "шматразовыя" беларускія разліковыя білеты ў прапорцыі 10:1.

Сітуацыю каменціруе Тамара Каржанеўская, начальнік упраўлення арганізацыі грашовага абароту Нацыянальнага банка РБ:

– Пасля ўвядзення ў абарачэнне беларускіх грошай можна сказаць адназначна: аднаразовыя купоны сваю місію выканалі. Таму тыя, у каго захаваліся гэтыя купоны, са спакойнай душой могуць рабіць з іх запісныя кніжкі або пакінуць на памяць нашчадкам.

Адным словам, як і прадказвалі мудрыя людзі, купоны, у рэшце рэшт, апынуліся там, дзе і павінны былі апынуцца, – на сметніку гісторыі.

(Ул.інф.).

## Весткі з падполля

# ЖЫВЕ КАМСАМОЛ?

У кругавароце сённяшніх праблем мы нярэдка забываем пра тыя ідэалы, якія зусім нядаўна здаваліся непахіснымі. Напрыклад, камсамол. Многія ўжо, напэўна, нават забыліся, што яны калісьці самі былі членамі гэтай арганізацыі. Адным словам, камсамол пахавалі. А між тым, ён жыве.

Як паведаміў першы сакратар ЦК ЛКСМБ Сяргей Вазняк, 9—10 мая ў Маскве завяршыў работу Аднаўленчы з'езд ВЛКСМ. Дарэчы, з'езд праходзіў у былым комплексе ЦК ВЛКСМ "Арляня", у тым будынку, дзе ўвосень адбыўся 22-гі Надзвычайны з'езд ВЛКСМ, на якім камсамольская арганізацыя перастала існаваць.

На Аднаўленчым з'ездзе былі выбраны кіруючыя органы: ЦК ВЛКСМ, у які ўвайшлі і два прадстаўнікі Беларусі, Бюро ЦК ВЛКСМ, дзе будзе дзевяць чалавек, пяць сакратароў і Цэнтральная кантрольная камісія ў складзе шасці чалавек, адзін з якіх — таксама з Беларусі. Першым сакратаром ЦК ВЛКСМ стаў Андрэй Язерскі, які раней быў першым сакратаром Зеленаградскага райкама г. Масквы.

На сённяшні дзень каля дзесяці тысяч камсамольцаў былога СССР пацвердзілі сваё членства ў ВЛКСМ.

Камсамольская арганізацыя Беларусі, атрымаўшы 24 красавіка адказ з Міністэрства юстыцыі аб неабходнасці некаторых змен у Статуце ЛКСМБ, 4 мая правяла пленум ЦК ЛКСМБ, на якім у Статут было ўнесена 25 паправак рэдакцыйнага характару. Зараз Статут са зменнямі пададзены ў Мінюст.

"Спадзяёмся,— гаворыць С. Вазняк,— што ў чэрвені пытанне з рэгістрацыяй ЛКСМБ будзе вырашана".

Франц Лявіцкі.

## Навіны з даўніны

### УРАДАВАЯ ДАПАМОГА

Найсвяцейшы сінод выдзеліў 61314 руб. у дапамогу на ўтрыманне духоўных навучальных устаноў, выключна Заходняга краю.

### КУРСЫ АГАРОДНІЦТВА І ПЛАДАВОДСТВА

наладжваюцца пры Маладзечанскай (Віленскага павета) настаўніцкай семінарыі. Навучанне на курсах бясплатнае. Практычныя заняткі мяркуецца праводзіць не менш як 6 гадзін у дзень, тэарэтычныя ўрокі і гутаркі каля 12 гадзін у тыдзень. У курсах прымуць удзел выхаванцы семінарый з розных месцаў губерні. Чытаць лекцыі і кіраваць практычнымі заняткамі будзе вядомы вучоны Грэль.

### СТРАШЭННЫ ПАЖАР

У заштатным горадзе Докшыцы ўспыхнуў днямі пажар, які знішчыў увесь горад: згарэла каля 400 дамоў, шмат сямей засталіся без прытулку. Не абышлося і без ахвяр сярод людзей. Вогнішча імгненна ахапіла ўвесь горад, заспеўшы знянацку на вуліцах жыхароў, якія былі знойдзены пасля пажару спечанымі. Вогнішча шугала каля 8 гадзін. Большасць людзей не паспела нічога выратаваць: у чым стаялі — у тым і засталіся.

### ДА ПЫТАННЯ АБ СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧЫМ ВІНАКУРЭННІ

Дзяржаўны савет зацвердзіў праект мер, накіраваных на заахвочванне сельскагаспадарчага вінакурэння. Для падтрымкі малых сельскагаспадарчых вінакураных заводаў устанаўліваецца безакцызнае адпушчэнне спірту з усёй выкуранай імі колькасці. Буйныя заводы абкладаюцца павядзёрным зборам. Звычайная велічыня сярэдняга завода вызначаецца ў 35000 вёдзер віна мацункам у 40 градусаў.

("Минский листок" № 41, 22 мая 1890 г.).

# КУР'ЕР ТЫДНЯ

*Юрый БАЛЬШАКОЎ,*
*палкоўнік, начальнік ваеннай кафедры Белдзяржуніверсітэта:*

– Кожны год мы набіраем на ваенную кафедру 700 чалавек. Заканчваюць жа яе толькі 600-650. Астатнія выключаюцца за парушэнне дысцыпліны, за непаспяховасць... Выпускнікі павінны прайсці вучэбныя зборы. Звычайна на зборы мы выязджалі на месяц, а то і больш, у ваенныя часці. А зараз з-за катастрафічнага недахопу грошай вымушаны будзем паехаць толькі на дзесяць дзён. Толькі на гэты тэрмін спатрэбіцца больш трохсот тысяч рублёў. На большае мы не здольныя.

Падрыхтоўка, якая даецца студэнтам на ваеннай кафедры, добрая. Гэта калі глядзець на тое, колькі ведаў ім аддаюць афіцэры-выкладчыкі. Але калі глядзець на тое, колькі гэтых ведаў прымаецца самімі студэнтамі, то тады можна сказаць адназначна – падрыхтоўка на сярэднім узроўні.

Між тым, у ЗША, напрыклад, каля 70 працэнтаў кадравых афіцэраў закончылі вышэйшыя навучальныя ўстановы.

*Мікалай Сямёнавіч ІНІН,*
*першы намеснік галоўнага рэдактара газеты "Рэспубліка":*

– На сучасным этапе газета наша перажывае такія ж цяжкасці, што і большасць іншых газет. Гэта, у першую чаргу, матэрыяльныя цяжкасці. А тут яшчэ нахлынуў дыктат Міністэрства сувязі. Перажываем мы і творчыя цяжкасці: не хапае граматных, вопытных журналістаў. Не абышлі нас бокам і эканамічныя цяжкасці ў рэспубліцы, бо любая газета з'яўляецца люстраным адбіткам падзей, што адбываюцца навокал.

Як мы збіраемся выходзіць з гэтага становішча? Наша мэта – стаць газетай еўрапейскага ўзроўню. Неабходна перагледзець арганізацыйныя структуры, падыход да камерцыі. Адным словам, планка патрабаванняў да сябе павінна быць высокай.

Зараз мы заводзім знаёмствы з рознымі камерцыйнымі коламі. Супрацоўнічаем са спажыўкааперацыяй, выдаём для яе работнікаў "Вести потребкооперации". Займаемся мы і камерцыйнай работай. Але тут у нас свае камерцыйныя тайны, раскрыць якія я не магу.

Хачу дадаць, што мы стараемся павысіць узровень прафесійных патрабаванняў да сваіх работнікаў, падрыхтаваць іх да работы ва ўмовах рыначных адносін.

*Рыгор Сямёнавіч РЫЛЬКОЎ,*
*старшыня Саюза прадпрымальнікаў РБ:*

– Галоўнай задачай нашага саюза з'яўляецца ўсялякае садзеянне і падтрымка прадпрымальніцтва ў нашай рэспубліцы. На сваіх з'ездах (а іх было ўжо два) мы вызначылі асноўныя напрамкі нашай работы. Гэта і прапаганда прадпрымальніцкай дзейнасці, і абарона гэтай дзейнасці, абарона інтарэсаў прадпрымальніцтва на дзяржаўным узроўні, правядзенне навукова-даследчай работы ў гэтай галіне...

Саюз прадпрымальнікаў існуе толькі год (дакладней, 15 чэрвеня споўніцца год з таго дня, як мы былі зарэгістраваны Міністэрствам юстыцыі).

На дадзеным этапе на першы план работы мы вылучаем барацьбу с існуючай падатковай сістэмай. Мы хочам даказаць, што прадпрымальніцкая дзейнасць гіне не толькі з-за таго, што пасля развалу СССР пачалі разбурацца гаспадарчыя сувязі. Прадпрымальніцтва развальваецца таксама з-за кабальнай падатковай сістэмы.

Мы стараемся зрабіць усё магчымае, каб наша справа жыла. Ужо існуе праект канцэпцыі развіцця вытворчасці, прадпрымальніцтва на тэрыторыі Беларусі. Мы стараемся як мага больш развіць сетку прадпрымальніцкіх структур, што дасць магчымасць у час беспрацоўя знайсці прытулак рабочай сіле.

Хачу толькі дадаць, што ўжо створаны Беларускі фонд фінансавай падтрымкі прадпрымальніцтва. На развіццё прадпрымальніцтва выдзелена 50 мільёнаў рублёў. Так што, трэба думаць, яно выжыве, нягледзячы на сучаснае становішча.

# БУДУЧАЕ ДЭМАКРАТЫІ. У ЧЫІХ ЯНО РУКАХ?

"ПАС" падрыхтавала Алена Агібалава, рэдактар аддзела па пытаннях палітыкі, тэл. 39-87-94.

## Расстаноўка палітычных сіл у Вярхоўным Савеце Беларусі яскрава бачна праз прызму мінулай сесіі.

Чарговая 9-я сесія Вярхоўнага Савета РБ працягвалася з 11 сакавіка па 24 красавіка 1992 года. Калі браць колькасныя паказчыкі, дык 94 праекты заканадаўчых актаў набылі альбо сілу закона, альбо прынятыя ў першым чытанні. Час пакажа, наколькі апраўданая падобная пладавітасць Вярхоўнага Савета, і ці пяройдзе колькасць у якасць. Цяпер жа хацелася б правесці аналіз вынікаў працы вышэйшага заканадаўчага органа з пазіцыі расстаноўкі палітычных сіл.

Няразвітасць дэмакратычных інстытутаў шматпартыйнай структуры прымушае звяртацца да прымітыўнай дзяльбы дэпутацкага корпуса на так званых дэмакратаў і кансерватараў. У аснове гэтага даволі ўмоўнага размежавання ляжаць адносіны да ўзроўню і глыбіні пераўтварэнняў, рэформ, якія забяспечваюць пераход ад сацыялізму да капіталізму, а таксама прыналежнасць да кампартнаменклатуры або шчыльная сувязь з ёй.

Разглядаючы вынікі сесіі праз схему "кансерватары—дэмакраты", трэба прызнаць, што апошнія пацярпелі калі не паражэнне, дык моцна здалі пазіцыі. Гэта пацвярджае ход абмеркавання і прыняцця рашэнняў па наступных пытаннях: справаздача Саршыні Савета Міністраў В.Кебіча аб выкананні заканадаўчых актаў аб падаткаабкладанні, рэарганізацыя ВС РБ і ягоных органаў, справаздача Прэзідыума ВС РБ аб рабоце з чэрвеня 1990 года да бягучага часу, аб прыватызацыі жыллёвага фонду і іншае. У чым прычыны?

Першае. Дэмакраты-радыкалы цалкам захапіліся ідэяй рэферэндуму, а дакладней — рэалізацыяй прыходу да ўлады цывілізаваным шляхам у рамках існуючага заканадаўства. Задача не пазбаўлена цвярозага розуму, але ва ўмовах посткамуністычнай дзяржавы, калі моцныя стэрэатыпы, калі пануючая ў грамадстве рэлігія — гэта люмпен-пралетарская ідэалогія, — магчымыя самыя непрадказальныя вынікі. Ідэя рэферэндуму падобная да моцнадзейных лекаў: вылечваючы хваробу, яны могуць прывесці да пабочных адмоўных эфектаў. Стварэнне падобнага прэцэдэнту ў грамадстве, якое не мае дэмакратычнай, палітычнай сістэмы, у грамадстве, якое не валодае дзяржаўнасцю, можа прывесці да бясконцых рэферэндумаў як спосабу ўхілення ад улады палітычных апанентаў. Невыпадкова гісторыя правядзення рэферэндумаў у іншых дзяржавах не ведае нічога падобнага. Там на агульнанацыянальныя рэферэндумы выносяцца, як правіла, канстытуцыйныя пытанні — прыняцце або змяненне канстытуцыі.

Вяртаючыся да мінулай сесіі, трэба прызнаць, што частка дэпутатаў-дэмакратаў займалася рэферэндумам, а не пытаннямі, якія разглядаліся на сесіі.

Другое. Крыніца ўсіх станоўчых вынікаў, поспехаў дэмакратычнага крыла ВС РБ у мінулым — гэта дэпутацкі Дэмакратычны клуб. Створаны па ініцыятыве дэпутатаў БНФ, ДДК стаў органам, які кансалідаваў намаганні дэмакратаў. Нядрэнна была пастаўлена работа з так званымі "незалежнымі" дэпутатамі. Як вынік, удалося прыцягнуць дадатковыя 20—30 галасоў, якія часцяком з'яўляліся вызначальнымі пры прыняцці або блакіроўцы разглядаемых сесіяй пытанняў. Стварэнне ДДК — спроба аб'яднаць увесь корпус дэпутатаў-дэмакратаў па вертыкалі, ад раённых саветаў да Вярхоўнага. Гэта спрыяла арганізацыйнаму афармленню дэпутацкіх дэмакратычных груп у мясцовых саветах, дзесьці да ўлады прыйшло дэмакратычнае кіраўніцтва. Але гэта былі асобныя поспехі. ДДК не толькі не стаў каардынатарам дэпутатаў-дэмакратаў у маштабе рэспублікі, але і практычна спыніў сваё існаванне ў вышэйшым заканадаўчым органе рэспублікі. У гэтым — галоўная прычына няўдач дэмакратычнай меншасці ВС РБ.

Трэцяе. Сёння дэмакраты знаходзяцца ад рэальнай улады на адлегласці гарматнага стрэлу, і наўрад ці гэтая адлегласць будзе памяншацца, калі дэмлідэры ў Вярхоўным Савеце або кандыдаты ў іх будуць больш дбаць пра ўласны імідж, чым пра інтарэсы будучага ўсёй дэмакратыі. Шушкевіч, Пазняк, Карпенка ў асабістых узаемаадносінах ад халастых зарадаў, якія выкарыстоўваліся ў кулуарах, перайшлі да баявых патронаў прама на сесіі. Што прынесла нямала прыемных хвілін старой наменклатуры.

Майстэрства кампрамісу, уменне бачыць галоўнае і працаваць на яго, здольнасць да разліковага, сплանаванага на доўгую перспектыву намагання — гэта праявы сапраўднага лідэрства. А магчымасці лідэраў — гэта магчымасці дэмруху. Калі падобны стыль узаемаадносін дэмлідэраў у ВС не стане нормай у асяродку дэмруху рэспублікі, можна смела сцвярджаць, што адна з асноўных задач пераходнага перыяду — ліквідацыя камунізму — не будзе вырашана, а значыць, няма сэнсу гаварыць пра якіясьці дэмакратычныя рэформы грамадства.

Чацвёртае. Глыбокі накдаўн, у якім апынуліся кансерватары пасля правалу жнівеньскага путча, мінуў. На апошнім рубяжы з'явіліся новыя "палітрукі" Клачковы, якія заклікаюць: "Ні кроку назад!". Нараджэнне дэпутацкай групы "Беларусь" у гэтых умовах — з'ява лагічная і прадказальная. Улічваючы, што дагэтуль цэнтрысцкая ніша практычна пустуе, члены групы "Беларусь", якіх называюць "зубры", заявілі аб сваім жаданні яе запоўніць. Яны рэанімавалі ідэю прыярытэту эканамічных пытанняў і лозунг "Палітыка вызначаецца праз эканоміку", якія нарадзіліся больш чым год таму, калі члены Вярхоўнага Савета А.Сасноў, В.Ганчар, Г.Карпенка, І.Драбышэўская, У.Станкевіч, дэпутаты з камісіі па справах моладзі паспрабавалі стварыць моцны цэнтр. У "Беларусі", якую многія лічаць правапераемніцай кампартгрупы, цікавыя лідэры: былы актыўны дэмклубавец М.Скарынін і надзвычай кантактны Г.Казлоў. Лідэры без наменклатурнага мінулага, з цягай да ліберальных ідэй.





Вікторыя "Беларусі" на мінулай сесіі гэта не столькі поспехі яе лідэраў, колькі перамога Вячаслава Францавіча. Менавіта вядомы сілуэт нашага прэм'ера бачны за спінамі Г.Казлова і М.Скарыніна. Аддамо яму належнае, В.Кебіч па заслугах займае месца ў дзесятцы тых, каго ў Рэспубліцы Беларусь без нацяжкі можна назваць прафесійным палітыкам.

Вынікі сесіі наводзяць на агульны вывад, што асобныя дэпутаты-дэмакраты паставілі крыж на сённяшнім Вярхоўным Савеце і распачалі новую перадвыбарную кампанію. У гэтай сувязі разумна апус..іцца на зямлю і прызнаць як факт існаванне цяперашняга ВС у бліжэйшыя паўгода-год і што менавіта яму неабходна прыняць Канстытуцыю, закон аб выбарах, зацвердзіць заканадаўчыя акты, прынятыя ў першым чытанні. Рашэнне па гэтых найважнейшых дакументах залежыць ад ступені кансалідацыі, аб'яднання намаганняў усіх дэпутатаў-дэмакратаў. І добра б было зрабіць вывады з дапушчаных памылак.

**Анатоль Лябедзька,**
**народны дэпутат**
**Рэспублікі Беларусь.**

*Інтэрв'ю ў нумар*

# "Мы — супраць дыктатуры горада"

*Стварэнне новых партый у недалёкім мінулым сустракалася з адабрэннем. Цяпер — з раздражненнем. Задумацца ёсць над чым: нягледзячы на намаганні палітыкаў, беды, якія сатрасаюць наша грамадства, не спыняюцца. Свой варыянт выратавання вёскі прапануе новая, пакуль што не зарэгістраваная партыя. На пытанні нашага карэспандэнта адказвае член аргкамітэта партыі, старшыня аблаграпрама Гродзенскай вобласці М. І. ГІРУЦЯ.*

**– Мечыслаў Іванавіч, каму належыць ідэя стварэння партыі і як яна будзе называцца?**

— Ідэя стварэння партыі, якая зможа абараняць інтарэсы вёскі, нарадзілася не ў кабінетах, не па прыхамаці начальства, а сярод сялян, там, дзе зараз ідуць вясеннія работы. Што датычыць назвы, то наша партыя будзе называцца Аб'яднанай аграрна-дэмакратычнай партыяй Беларусі. Выпрацаваны праекты Статута партыі і яе Праграмы.

**– Але ж на Беларусі ўжо існуюць партыі, якія стараюцца вырашыць праблемы сялян. Напрыклад, Сялянская партыя...**

— Думаю, што гэта партыя ўжо зжыла сябе. Сведчанне таго — невялікая колькасць членаў і адсутнасць папулярнасці сярод сялянскіх мас. Ды і чаго можна чакаць ад людзей, далёкіх ад сельскай гаспадаркі? Але мы не супраць супрацоўніцтва, магчыма, прапануем ёй аб'яднацца з нашай партыяй.

**– А ці не здарыцца падобнае і з вашай партыяй?**

— Не, таму што ў нашых інтарэсах выбіраць людзей не па займаемай пасадзе, а па ацэнцы чалавека як прафесіянала. Той, хто ведае праблемы вёскі, хутчэй знойдзе агульную мову з яе жыхарамі. Узяць хаця б наш аргкамітэт. Складаецца ён з 32 чалавек. Сярод іх — механізатары, старшыні калгасаў і дырэктары саўгасаў, фермеры, сельскія настаўнікі і медыкі, ёсць карэспандэнт Віцебскай абласной газеты.

**– Зараз практычна ўсе партыі абяцаюць лепшую будучыню. А ўвогуле ці магчыма ў сучасных умовах палепшыць жыццё вёскі?**

— Абяцаць, што заўтра сялянам жыць стане лягчэй, мы не можам, але можам заверыць у тым, што зробім для гэтага ўсё магчымае. Галоўная ж прычына сумнага стану вёскі бачыцца нам у дрэнных умовах работы калектыўных гаспадарак. Наша задача — весці барацьбу за эквівалентнасць аптовых цэн на прамысловую прадукцыю закупачным на сельскагаспадарчую. А то што ж атрымліваецца? Прамысловыя прадпрыемствы, якія маюць права свабодна ўстанаўліваць цэны на сваю прадукцыю, павысілі іх у некалькі разоў, у той час як сельскагаспадарчыя прадпрыемствы вымушаны прадаваць сваю прадукцыю па закупачных цэнах, якія фіксуюцца дзяржавай. На мой погляд, гэта — дыктатура горада. Гаспадаркі становяцца банкротамі, і пры ўсім жаданні не могуць забяспечыць высокі жыццёвы ўзровень работнікаў. Калі ж мы будзем мець палітычную арганізацыю, то зможам змагацца за свае інтарэсы.

**– Такім чынам, вырашэнне харчовай праблемы вы звязваеце з развіццём калектыўных форм гаспадарання?**

— Пара, нарэшце, прызнаць, што калектыўнае землекарыстанне намнога больш эфектыўнае за індывідуальнае. Паглядзіце на аграрны сектар ЗША. Там 15 працэнтаў буйных ферм даюць 70 працэнтаў аграрнай прадукцыі. Па колькасці займаемай зямлі буйныя амерыканскія фермы роўныя большасці нашых калгасаў. Адным словам, тое, да чаго імкнуцца амерыканцы, у нас ужо ажыццёўлена. Я ўжо не кажу аб тым, што менавіта пры калектыўнай уласнасці адкрываюцца магчымасці выкарыстання навукі і тэхнікі, вядзення селекцыйнай работы.

Гутарыў А.Сухаверхі.





# НОВАЕ ПАКАЛЕННЕ ВЫБІРАЕ БІЗНЕС

*У часы, калі ў кішэнях пуста, а вітрыны камерцыйных кіёскаў выклікаюць толькі адмоўныя пачуцці з-за сваёй недасягальнасці, усялякія выпадкі і праявы альтруізму ўспрымаюцца даволі складана. У той момант, калі ўсе з апошніх высілкаў грабуць пад сябе, нехта ахвярае сваё незнаёмым людзям?*

*Адным з такіх прыкладаў можна лічыць курсы менеджэраў і бізнеспадрыхтоўкі, якія праводзілі студэнты і выкладчыкі Канадскага эканамічнага універсітэта з Заходняга Антарыю. Канадцы, людзі маладыя і дзейныя, з энтузіязмам выкладалі слухачам асновы рынчнай эканомікі і ўзаемаадносін. З Мітчэлам Вольфам, адным з ініцыятараў правядзення гэтых курсаў, мы доўга гутарылі ў калідорах інстытута замежных моў, дзе збіралася ягоная група слухачоў.*

– Мітчэл, для пачатку раскажы, калі ласка, як нарадзілася ідэя правядзення такіх курсаў?

— Прыблізна 2 гады таму, у двух студэнтаў нашага універсітэта з факультэта бізнесу, пад уплывам працэсаў дэмакратызацыі ва Усходняй Еўропе, нарадзілася ідэя дапамагчы людзям Усходу ўступіць у сапраўдны рынак. Яны выдатна разумелі, што будаваць новае грамадства з новымі эканамічнымі адносінамі могуць толькі людзі, якім вядомыя ўмовы рыначнай гаспадаркі.

– Відаць, вашымі намерамі зацікавіліся і прадстаўнікі канадскага ўрада?

— Безумоўна. Без дапамогі ўрада мы наўрад ці змаглі б арганізаваць курсы на тым узроўні, на якім яны прайшлі. Заўваж, падобныя курсы, акрамя Менску, адначасова праходзяць у Маскве, Рызе, Вільні, Львове...

– Хто ж фінансуе ўсю гэтую справу?

— Выкладчыкі курсаў працуюць бясплатна. Квіткі на самалёт і неабходныя падручнікі, перакладзеныя дапаможнікі, набытыя на грошы, выдаткаваныя канадскім урадам. Хацелася б адзначыць і вялікую ролю ў арганізацыі курсаў дабрачыннага фонду "Дзецям Чарнобыля".

– Мітчэл, калі падысці аб'ектыўна, як ты сам ацэньваеш гэтыя курсы, які іх узровень?

— Узровень курсаў дастаткова высокі. Падрыхтоўка слухачоў ідзе па некалькіх накірунках: бухгалтарскі ўлік, фінансаванне прадпрыемства, маркетынг, стратэгія сумесных прадпрыемстваў і г.д. Веды надзвычай карысныя і патрэбныя. Валодаючы імі, можна разлічваць на нешта грунтоўнае ў прыватным бізнесе.

– Па якой сістэме ідзе навучанне: вы проста выкладаеце тэорыю, якой валодаеце самі, ці ў вас ёсць узор нейкай сістэмы?

— Навучанне ідзе па арыгінальнай сістэме, якая дзейнічае і ў нашым універсітэце. Мы не даём сухую тэорыю, усё вывучаецца на прыкладах з гісторыі канкрэтных кампаній і фірм. Сённяшняя задача: кампанія "Смажаныя кураняты па-кентукску" хоча адкрыць свой рэстаран у Кітаі. Даюцца ўсе звесткі: кошт куранят і рэкламы, інфармацыя аб канкурэнтах і пакупніках, сітуацыя на рынку. Прааналізаваўшы ўсё гэта, трэба адказаць: адкрываць рэстаран альбо не? Ці будзе прыбытак і які?

– І як, спраўляюцца?

— Ты ведаеш, у большасці выпадкаў адказы і прагнозы слухачоў курсаў адпавядаюць той сітуацыі, якая склалася на самай справе. Увогуле, мяне вельмі здзівіла, з якой хуткасцю і лёгкасцю слухачы засвойваюць матэрыял. Яны нас пастаянна падганяюць на лекцыях — хутчэй, хутчэй. Напачатку мы нават сумняваліся, што ўся інфармацыя засвойваецца, праводзілі кантрольныя, але ў рэшце рэшт пераканаліся ў надзвычайных здольнасцях сваёй групы. Такая ж сітуацыя з навучаннем і ў астатніх групах.

– Хто вучыцца на вашых курсах?

— У маёй групе — у асноўным былыя афіцэры, звольненыя ў запас па скарачэнню. А ўвогуле — студэнты, бізнесмены і г.д.

– А як ты лічыш, ці дапамогуць рэальна ім вашы курсы?

— Безумоўна. У гэтых людзей і так вельмі шмат даволі цікавых ідэй, якія абяцаюць быць прыбытковымі. Адзінай цяжкасцю для іх на самым пачатку рыначнага шляху, думаецца, можа стаць толькі адсутнасць першапачатковага капіталу.

– А ці ёсць у канадскіх прыдпрымальнікаў цікавасць да беларускага рынку, да супрацоўніцтва з беларускімі бізнесменамі?

— Так, і вельмі вялікая. Наколькі я ведаю, ужо існуюць два беларуска-канадскія таварыствы. І шмат кампаній марыць мець на Беларусі сваю справу. Але ім патрэбна дакладная інфармацыя аб рынку, аб канкурэнтах, аб людскіх рэсурсах; дакладныя гарантыі і дакладныя людзі тут, з якімі можна супрацоўнічаць. Спісы асабліва выбітных слухачоў з найбольш цікавымі прапановамі і ідэямі мы адвязём у Канаду і, я думаю, што з гэтага нешта атрымаецца, партнёры знойдуць адзін аднаго.

– Калі б цябе прызначылі прэм'ер-міністрам Беларусі, якім стаў бы першы твой крок?

— Вельмі цяжка адказаць. Для таго, каб рабіць нейкія высновы, неабходна добра ведаць эканамічную і палітычную сітуацыю, людзей, умовы беларускага рынку. Дзеля таго, каб зрабіць гэта зараз, маіх звестак недастаткова. Але ўжо ў наступным годзе, калі мы зноў прыедзем праводзіць падобныя курсы, я думаю, буду мець больш канкрэтны адказ. Адзінае, што хачу адзначыць — беларусы яшчэ не страцілі жаданне працаваць. Гэта плюс свабода прадпрымальніцтва і наяўнасць цікавых ідэй дапамогуць вам у крызісе.

– Што прымусіла прыехаць сюды ўласна цябе?

— Акрамя жадання дапамагчы і цікаўнасці (я яшчэ ніводнага разу не быў у краінах СНД), мяне прыцягнулі сюды карані: мае дзядуля і бабуля адсюль, з Беларусі, яны нарадзіліся ў невялікай вёсцы паміж Менскам і Вільняй.

– І якія ўражанні ад Бацькаўшчыны тваіх продкаў?

— Я тэлефанаваў у Канаду дзеду і сказаў, што Беларусь — гэта самая прыгожая краіна ў свеце.

– А ці спадабаліся табе беларускія дзяўчаты?

— Вельмі. Толькі не кажы нікому, бо маёй нявесце гэта не спадабаецца.

Мы пагаварылі яшчэ трохі пра бізнес, Беларусь і Канаду, пасмяяліся, і Мітчэл, зірнуўшы на гадзіннік, пабег у аўдыторыю.

Пагаварыў я і са "студэнтамі". У адрозненне ад Мітчэла, які на першае месца ставіць першапачатковы капітал, яны лічаць, што галоўнае — пераадолець тыя цяжкасці, якія спарадзіла адміністрацыйная сістэма, абысці праблемы, створаныя недахопамі і недапрацоўкамі законаў. "Поспех чакае адзінак,— сказалі мне.— І ў асноўным тых, хто здолее ўтварыць нейкае СП. Астатніх задушаць афіцыйныя структуры".

І ўсё ж... Я ўпэўнены на сто прыцэнтаў, што калі Мітчэл Вольф прыедзе на Беларусь у наступным годзе, ён пацікавіцца — чаго дасягнулі за мінулы год ягоныя навучэнцы, ці здолелі скарыстаць набытыя веды?

Дакажыце свае здольнасці, новыя бізнесмены!

Зміцер ЛУКАШУК,
Аглядальнік
па пытаннях эканомікі,
тэл.39-87-94.

Фота С.БРУШКО.







Віктар Анатольевіч Гайсёнак нарадзіўся ў 1950 годзе ў сям'і рабочага МТЗ. Скончыў фізічны факультэт БДУ, застаўся працаваць там жа. Быў дэканам факультэта, мае ступень доктара фізіка-матэматычных навук. З'яўляецца аўтарам больш за 100 навуковых работ і манаграфій. 16 студзеня 1992 года зацверджаны міністрам адукацыі Рэспублікі Беларусь.

скай мове, па той жа гісторыі, геаграфіі, дык гэта была проста калька падручнікаў, якімі карысталіся ў рускамоўных школах. Зараз ідзе вельмі складаная праца па стварэнню новых праграм, падручнікаў. Трэба вызначыць і свой уласны падыход да канцэпцыі зместу адукацыі, трэба, каб заставаліся магчымасці нейкіх варыяцый для на-

Вельмі цяжка рашаюцца праблемы, звязаныя з беларусізацыяй у вышэйшых навучальных установах. Праўда, мы ўжо зрушылі грамадскую думку ў бок разумення яе неабходнасці. Ведаеце, бацькі ўжо спакойна ўспрымаюць тое, што іх дзіця ідзе ў беларускі клас. Кажуць, яшчэ нас саміх навучыць. А наогул, я не люблю слова "беларусізацыя".

## Віктар Гайсёнак:

# "Адукацыя – інстытут незалежнасці"

**– Віктар Анатольевіч, давайце пачнём, так бы мовіць, з разміначнага пытання. Як становяцца міністрамі?**

— Выпадкова. Ведаеце, ёсць шмат людзей, якія б маглі працаваць на гэтай пасадзе... Я не буду даваць ацэнку — лепш, ці горш,— але я ўпэўнены, што ёсць шмат людзей, якія б маглі працаваць тут, у гэтым кабінеце і займацца гэтай справай. Вядома, пэўная база ў мяне была закладзена, але выпадак тут іграе ролю. Таму я не лічу, што, калі я стаў міністрам,— гэта нейкае маё супердасягненне. Так сышліся акалічнасці, што я з пасады прафесара прыйшоў сюды, і, можа здарыцца, што я адсюль зноў пайду на пасаду прафесара, для мяне гэта не будзе трагедыяй.

**– Апошнім часам прафесура пакідае кафедры і пераходзіць ва ўрадавыя будынкі – Шушкевіч, напрыклад... Гэта што, новая традыцыя?**

— *Можа, гэта не вельмі сціпла, але распрацоўкай стратэгіі павінны займацца падрыхтаваныя людзі.* Узяць нават практыку іншых краін, паглядзець на парламенты, на вышэйшых кіраўнікоў — большасць з іх таксама ў свой час працавалі ва універсітэтах, у каледжах. Дарэчы, і ў расійскім урадзе таксама праглядаецца такая тэндэнцыя.

**– А якую адукацыю мае міністр адукацыі? Калі не сакрэт, ці былі ў вас у атэстаце, у дыпломе "дзяржаўныя" адзнакі – "тройкі"?**

— Ну, вы ведаеце... (усміхаецца). Калі казаць пра атэстат сталасці, "тройка" была... па геаграфіі. З настаўніцай характарамі не сышліся. І другая "тройка" была па фізкультуры — у той час, калі я спортам вельмі сур'ёзна займаўся, першы разрад меў. Наогул у школе я вучыўся на сярэднім узроўні, выдатнікам не быў, калі не лічыць фізікі і матэматыкі — гэта было маё. Што ж тычыцца універсітэта, дык у тым укладышы, што выдаюць да дыплома, нават чацвёрак няма.

**– Чырвоны дыплом?**

— Так. Праўда, за гады вучобы ва універсітэце была адна "чацвёрка" — па гісторыі партыі. Логіку гэтага прадмета я ніяк спасцігнуць не мог...

**– А ці бачыце вы логіку ў тым, што пасля жорсткай сістэмы таталітарызму да нас прыйшло нейкае безуладдзе-бязладдзе?**

— Што вы маеце на ўвазе пад безуладдзем? Хочаце, каб я даў ацэнку ўраду, Вярхоўнаму Савету?

**– Так, менавіта сувязям выканаўчых і заканадаўчых органаў...**

— Мне здаецца, праблема ў тым, што змянілася сістэма палітычнай улады, а сістэма кіравання, структура органаў кіравання засталіся тыя ж самыя. Адсюль і вынікі: сістэма кіравання зараз не адпавядае палітычнай рэчаіснасці. Відавочна, што у новых палітычных умовах, яны не спрацоўваюць. Я ведаю, што і Вярхоўны Савет, і Саўмін шукаюць новыя падыходы, і веру, што знойдуць іх. А логіка тут ёсць — гэта логіка жыцця, развіцця палітычных структур... І мабыць, добра, што гэтыя змены не рэвалюцыйныя, не гвалтоўныя, а эвалюцыйныя. Шлях эвалюцыі для чалавека заўсёды больш прымальны, чым шлях рэвалюцыі. Шмат чаго разбурана і ў сістэме адукацыі, але трэба працаваць, наладжваць новую сістэму, новыя структуры, не баяцца нешта мяняць.

**– Віктар Анатольевіч, як Вы бачыце ўзаемаадносіны выхавання і адукацыі? Ці патрэбна нейкае выхаванне ў сценах школы альбо трэба пакінуць яго бацькам?**

— Я б наогул не адрываў выхаванне ад адукацыі. Мы прывыклі лічыць, што выхаванне — гэта піянерскі збор, на якім дзецям прапаведваюць подзвігі Паўліка Марозава. Адукацыя — гэта і ёсць выхаванне. Іншая справа, акрамя таго, каб навучыць дзяцей чытаць, пісаць, маляваць і г.д., мы павінны рабіць з іх грамадзян.

**– Але грамадзяніна якой краіны будзе выхоўваць наша школа?**

— Вось мы і падышлі да асноўнага пытання — што цяпер уяўляе наша школа, сістэма адукацыі, і што яна павінна ўяўляць. Літаральна толькі што мы размаўлялі з карэспандэнтам "Інтэрфакса" на тэму суверэнітэту Беларусі. Наша рэспубліка будзе незалежнай толькі тады, калі ў нас з'явяцца для гэтага адпаведныя інстытуты. Іх мае кожная незалежная краіна, і адзін з такіх інстытутаў — нацыянальная сістэма адукацыі. Зараз нашымі навукоўцамі, прадстаўнікамі ВНУ, міністэрства, шырокай педагагічнай грамадскасцю выпрацоўваецца канцэпцыя нацыянальнай школы. Часам гэтае паняцце зводзяць толькі да моўнай праблемы. Маўляў, калі адукацыя будзе весціся на беларускай мове — дык гэта і ёсць нацыянальная школа. Мова, вядома, рэч важнейшая. Хіба можа існаваць незалежная краіна, якая ў навучанні дзяцей карыстаецца іншаземнай мовай? Гэта бязглуздзіца. Няпростае гэта пытанне, але перспектывы тут ёсць. Ужо сёлета мы плануем, што прыкладна 70 працэнтаў першакласнікаў пойдуць вучыцца ў беларускія класы.

**– Але беларуская школа – гэта не толькі мова...**

— Так, перш за ўсё трэба перагледзець змест адукацыі. У свой час ён вызначаўся не намі, як кажуць, з цэнтра і быў аднолькавы для ўсіх. Калі мы і мелі падручнікі на беларускай мове, па той жа гісторыі, геаграфіі...

настаўнікаў, вучняў. Далей, мы павінны стварыць сістэму метадычнага і матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння. Зараз практычна наша школа матэрыяльна-тэхнічна не забяспечана. Тое, што мы маем,— спадчына мінулых гадоў. Але вечнага нічога няма — паступова ўсё прыходзіць у нерабочы стан... У свой час амаль усім — ад прабіркі да камп'ютэра — мы забяспечваліся з Расіі. Цяпер яна — замежная краіна, набыць там, вядома, можна, але дзе ўзяць такія грошы... Ну і калі ўжо ў тэлеграфным стылі — патрэбна і навуковае забеспячэнне, тут наша надзея на БелНДІадукацыі. Праўда, аднаго яго тут мала, трэба развіваць педагагічную навуку ў ВНУ Беларусі. Раней — я, вядома, не кажу пра ўсіх — але наша педагагічная навука часам зводзілася да ідэалагічнага шаманства. Сусветная педагагічная навука грунтуецца на адных і тых жа агульначалавечых прынцыпах, і мы павінны ў яе інтэгравацца. Ну і, вядома, кадры. Гэта таксама праблема, мы актыўна вырашаем яе... І ў рэшце рэшт, калі ўжо казаць пра сістэму адукацыі, патрэбна рэформа кіравання адукацыяй, пачынаючы з міністэрства. Гэтыя рэформы павінны ісці не праз скарачэнні ці павышэнні штатаў, не праз стварэнне нейкіх новых звенняў, а праз канкрэтызацыю дзейнасці, усведамленне, што павінна рабіцца на ўсіх узроўнях кіравання. Гэтую работу мы правялі, узгаднілі з камісіяй, што ўзначальвае Ніл Гілевіч, зараз усё гэта пойдзе на месцы.

**– Як Вы стасуецеся з камісіяй Вярхоўнага Савета па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны? У плане заканадаўчым, напрыклад?**

— Дзякуючы нашым сумесным намаганням, на апошняй сесіі Вярхоўнага Савета прыняты пастановы, вельмі важныя для нас. Першая — гэта пастанова па захаванню сістэмы дзіцячых садкоў, і другая — ўвядзенне 34-га артыкула Закона аб адукацыі ў поўным аб'ёме, пачынаючы з 1 верасня гэтага года. Там ідзе гаворка пра заработную плату настаўнікаў і выкладчыкаў. Так што паразуменне ёсць.

**– Дарэчы, ці не адчуваеце Вы скрытага супраціўлення вашай палітыцы з боку выкладчыкаў, настаўнікаў? Усё ж адукацыя – вельмі кансерватыўная сістэма...**

— Што яна кансерватыўная, дык гэта і добра, гэта не дае адразу ўсё разбурыць. Здаровы кансерватызм неабходны, калі гаворка ідзе пра лёс мільёнаў людзей... А наконт супраціўлення... Супраціўленне чаму?

**– Ну, напрыклад, беларусізацыі.**

— Гэта ёсць. У розных людзей, у розных школах — розныя адносіны. Я б не ставіў усіх у адзін шэраг. Нехта аддае прымусовасцю. Давайце гаварыць так: трэба выконваць Закон аб адукацыі і Закон аб мовах... Але ў ВНУ гэтыя працэсы ідуць цяжка. Палітыка прымусовасці тут не спрацуе: калі будзе паразуменне неабходнасці, тады мы і зробім больш сталыя крокі.

**– Віктар Анатольевіч, хацелася б пачуць з першых вуснаў: што змянілася ў правілах прыёму ў навучальныя ўстановы ў параўнанні, напрыклад, з мінулым годам?**

— У асноўным правілы засталіся тымі ж самымі. Але я хацеў бы падкрэсліць такую акалічнасць: зараз існуюць не проста правілы прыёму, а т ы п о в ы я правілы прыёму, і ВНУ мае магчымасць уводзіць у іх свае дадатковыя пункты, неяк змяняць гэтыя правілы па ўзгадненню з намі. І такія змены будуць. Я б хацеў звярнуць увагу і бацькоў, і абітурыентаў на тое, каб яны вельмі ўважліва вывучалі правілы кожнай канкрэтнай ВНУ. *Напрыклад,* будуць існаваць адрозненні ў прыёме нават на розныя факультэты. На пэўныя з іх медалісты будуць прымацца наогул без іспытаў, на іншыя — наадварот, без усялякіх ільготаў — усё залежыць ад конкурсу. Што ж датычыць іспытаў па беларускай мове і літаратуры, яны з'яўляюцца абавязковымі, але калі чалавек не вывучаў беларускую мову, мае ў атэстаце прочырк — ён будзе здаваць іспыт па рускай мове. Вядома, гэта толькі ў тых выпадках, калі беларуская мова не ўваходзіць у пералік профільных іспытаў. Ну як жа будзе паступаць на беларускую філалогію той, хто не ведае мовы?

**– А як быць тым, хто жыве за межамі рэспублікі і жадае паступіць у нашу ВНУ?**

— У адпаведнасці з правіламі прыёму ў ВНУ могуць залічвацца грамадзяне Беларусі, асобы без грамадзянства, якія пражываюць на тэрыторыі РБ, а таксама ўсе этнічныя беларусы. Гэта значыць, калі беларус прыехаў да нас — пытанняў не будзе. Наогул, права вырашаць большасць спрэчак мы аддаём самім ВНУ. Што датычыць астатніх — трэба заключаць міждзяржаўныя пагадненні, хай пералічваюць грошы і вучацца ў нас, як гэта было раней з замежнымі студэнтамі.

**– Віктар Анатольевіч, па традыцыі, на заканчэнне – пажаданне чытачам "Чырвонай змены"...**

— Вас чытаюць тыя, хто толькі пачынае шлях у жыццё. І я хацеў бы пажадаць усім маладым людзям адшукаць свой шлях, і добра, калі ён будзе шчаслівы.

*Гутарку вёў*
**Алесь ПАЛЫНСКІ.**

# ЧЭРВЕНЬ

РОДНЫ КРАЙ




*Паданні*

## Як паўстаў Мінск

*Легенда*

Горад гэты заснаваны нейкім асілкам і чарадзеем Менескам, які прыйшоў сюды з Польшчы. Менеск нібыта пабудаваў на рацэ Свіслач млын на сямі колах і малоў хлеб з камення. Ад такой выгаднай "работы" ён хутка разбагацеў і пачаў наладжваць на сваім млыне застоллі, на якія запрашаў мноства гасцей.

Ён набраў сабе дружыну і па начах раз'язджаў з ёю па наваколлі, рабаваў сёлы і вёскі, падарожных. Яму мала было набытага багацця і хацелася мець столькі грошай, каб скупіць усе землі навокал.

Мясцовасць, дзе жыў гэты чарадзей, і яго млын пачалі называць Менескам.

За яго ўчынкі-зладзействы яго зненавідзела ўсё насельніцтва. Знайшлі чарадзея, больш магутнага за Менеска, і ўпрасілі яго прагнаць са Свіслачы злодзея мельніка. Чарадзей той паслухаў людзей: ён спаліў млын і сваімі чарамі прымусіў Менеска перабрацца ў іншае месца. Але паселішча, якое ўзнікла каля млына, захавала сваю ранейшую назву — Менеск.



Вось і лета прыйшло. Новая хваля яркіх фарбаў запоўніла наваколле. Цвіце пад вокнамі беласнежны язмін, ружавеюць уздоўж дарог кусты шыпшыны, стракаты дыван пакрыў лугі. Каласіцца на палях жыта, а ў лесе раскінуў свае прыгожыя ўзорыстыя лісты папаратнік-арляк. У ціхіх затоках сажалак і азёр расцвілі белыя і жоўтыя гарлачыкі.

У чэрвені шмат цяпла. 22 чэрвеня – дзень летняга сонцастаяння. Самы доўгі дзень і самая кароткая ноч. Пачынаецца астранамічнае лета. Праз пяць дзён па хвілінцы ноч пачне адваёўваць сабе час. У народзе кажуць: сонца павярнула на зіму, а лета – на гарачыню.

* * *

### 2. Аўторак.

80 гадоў назад (1912) у Гродне выйшаў першы нумар грамадска-палітычнай і літаратурнай газеты "Наше утро". Выходзіла да 31 ліпеня 1914 года.

### 3. Серада.

80 гадоў назад (1912) Я.Купала закончыў камедыю "Паўлінка" — першы свой драматычны твор.

### 4. Чацвер.

УШЭСЦЕ (УЗНЯСЕННЕ ГАСПОДНЕ).

Свята прысвечана ўспаміну таго, як на саракавы дзень пасля Вялікадня Ісус Хрыстос узнёсся на неба. У перыяд ад Уваскрэсення да Узнясення Хрыстос з'яўляўся вучням — навучаў іх ісцінам Царства Нябеснага.

### 14. Нядзеля.

ТРОЙЦА (СЁМУХА).

На Сёмуху (Зялёныя святкі, Тройцу), якая як бы сімвалізавала провады вясны, кожная сям'я ўпрыгожвала сваю хату, гаспадарчыя пабудовы, браму зелянінай ("маем") – галінкамі бярозы, клёну, ліпы, дубу, падлогу ў хаце засцілалі аерам. Дзяўчаты ішлі з песнямі ў лес, там звязвалі галінкамі дзве бярозы і пад утворанай аркай праходзілі туды-сюды тры разы – куміліся. Пасля гэтага абрадавага дзеяння пачыналася калектыўная трапеза, абавязковай рытуальнай стравай на якой была яечня. Дзяўчаты, што ўтваралі пару ў час абраду, не мелі права сварыцца паміж сабою цэлы тыдзень. Праз тыдзень зноў з песнямі ішлі ў лес і развязвалі бярозу. На Сёмуху дзяўчаты вілі вянкі з розных кветак і пускалі іх на ваду, загадваючы аб будучым замужжы.

У Заходнім Палессі на Сёмуху быў вядомы абрад – "вадзіць куста", г.зн. прыгожую дзяўчыну, якая была ўпрыгожана зелянінай. Усе дзяўчаты вёскі разам з "кустом" хадзілі па дварах з песнямі, у якіх праслаўляліся гаспадары, іх дзеці, выказваліся пажаданні здароўя, дабрабыту, маладым – уступлення ў шлюб, прасілі адарыць удзельніц абраду. Пасля абходу ўсіх двароў дзяўчаты разам з хлопцамі, якія пазней далучаліся да іх, ладзілі вечарынку ў хаце або на вуліцы.

З вясной найчасцей канчаліся і запасы хлеба ў селяніна, на што паказваў варыянт прыказкі: "На Зелянец – хлебу канец". Прыкметай Сёмухі ў полі было красаванне жыта. У гаспадарцы ж вакол яе замацаваліся свае правілы і парады: "Святая Сёмуха навозы возіць". Напярэдадні свята, памыўшыся ў лазні, сеялі каноплі.

Субота напярэдадні Сёмухі лічылася памінальным днём у шматлікіх месцах Беларусі: хадзілі на могілкі, магілы падмяталі бярозавымі венікамі, пакідалі там разнастайныя стравы.

Таццяна КУХАРОНАК.

### 19. Пятніца.

80 гадоў з дня нараджэння (1912) Пятра Іванавіча Вітэля, беларускага паэта і перакладчыка.

### 28. Нядзеля.

50 гадоў з дня трагічнай гібелі (1942) Янкі Купалы ў гасцініцы "Масква" ў Маскве.

*Думкі ўголас*

## Каб беларусам звацца...

Здаецца, справа зрушылася. Людзі ўжо не саромеюцца гаварыць на сваёй роднай мове, бо нават на тэлебачанні з'явіліся беларускамоўныя перадачы. Гэта прыемна. Але чаму іх так мала? Нават калі бачым рэпартажы з кіраўнікамі гаспадарак, то дзівуемся, чаму карэспандэнт намагаецца размаўляць па-беларуску, а старшыня калгаса — па-руску. Дзе-нідзе толькі слова вясковае праскочыць. Думаецца, справа не ў тым, што чалавек не ведае сваёй мовы, а ў тым, што не прывык "свабодна" ёю валодаць. Доўгія гады беларуская мова была ў загане: беларускія кнігі і часопісы пыліліся на паліцах бібліятэк і кіёскаў "Саюздруку". Дайшло да таго, што ў гарадах, напрыклад, Гомелі, Віцебску, Мінску прадаўцы магазінаў абразліва кідалі тавар жанчынам, якія прасілі:"Ці нельга прымерыцца?.. Калі ласка. Будзь ласкава, дачушка... Падайце шкарпэткі... Загарніце, мамачка..."

Тое, што культура губляецца ў грамадстве, відавочна. Не толькі беларуская. Цікава ведаць, дзе ж вытокі тае абразы? У чым вінаватая жанчына з вёскі, што ёй калісьці бабуля спявала беларускую калыханку, а сама яна з малых гадоў, разам з малаком маці, засвоіла пявучую, меладычную мову.

Не, не хутка яшчэ беларуская мова стане сапраўды мовай нацыі. У вёсцы ўсё значна прасцей. Выкладанне ў школах вядзецца на роднай мове, дакументы аб адукацыі выдаюцца двухмоўныя, таксама як і пасведчанне аб нараджэнні дзіцяці, аб уступленні ў шлюб. Розныя пасяджэнні праўлення калгасаў часцей адбываюцца па-беларуску, выкарыстоўваюцца і мясцовыя дыялекты. У горадзе пакуль што — толькі змена шыльдаў. Нават меню ў сталовых — і тое па-руску. Вадзіцелі аўтобусаў, трамваяў па-ранейшаму аб'яўляюць прыпынкі па-руску. Тое самае — на чыгуначным вакзале. У Кіеве на ўваходзе ў метро па-ўкраінску чытаем:"Шаноўныя кіяўляне і госці нашага горада! Зробім наш Кіеў узорным!"

Жывучая руская мова! Вось я і думаю, а ці патрэбна яе выцясняць? Разумееце, нельга нічога рабіць сілай, прымусова. Так, маўляў, мы, Мікалай II, пастанавілі: рускую — забараніць, беларускую — у дзеянне! Хіба гэта метад? Што зменіцца з таго, бульбу будзем есці або "картошку", кветкі дарыць жанчыне або "цветы", "пододеяльником" укрывацца або падкоўдранікам? Справа не ў тым, што ўсё навокал нас будзе беларускае, а ў тым, каб палюбіць усё беларускае і адчуваць гонар за тое, што нам належыць. Прайсці праз усе выпрабаванні і сказаць: "Я — славянін. Мая душа беларуская, і мова мая славянская. Як цудоўна, што, чытаючы беларускія газеты і часопісы, я ўсё разумею. Калі патрэбна перакласці артыкул з рускай мовы на сваю — гэта справа дзвюх хвілін.А можа прыйдзецца абараняць свае вынаходствы на міжнароднай арэне, то пра гэта я магу зрабіць двухмоўны даклад або тлумачальную падаць на зразумелай усім мове".

Калі чытач уважліва сочыць за маёй думкай, то, пэўна, зразумеў, што аўтар за двухмоўе. Пачалося неапраўданае скарачэнне гадзін рускай мовы ў школах, прычым, насільнае. Я не хачу, каб мой народ быў дзікуном і кідаўся з адной крайнасці ў другую. Беларуская мова — мая родная, хаця я нарадзілася ў Літве, а мая маці руская. Раней мне незразумелая была яна, гэтая дзівосная мілагучная мова. Апошнія гады шмат чаго змянілі. Праз сумненні прыйшла да высновы, што чалавек, які паважае сябе, павінен ведаць мову зямлі, на якой жыве.

Курсы па вывучэнню беларускай мовы, на жаль, застаюцца на паперы. Ой, як марудна пасоўваецца справа беларусізацыі! Але, разам з тым, не хочацца, каб добрае пачынанне ператварылася ў наскокі. Трэба ведаць меру, і калі бацькі ў горадзе не жадаюць аддаваць дзіця ў беларускі клас, не трэба рабіць гэта з-пад палкі. Толькі перакананне, толькі разуменне неабходнасці можа адрадзіць нацыянальную мову і культуру. Шырокую прапаганду павінны атрымаць беларускія газеты, беларускія тэатры, нарэшце, беларускія песні.

Неабходна пашырыць сетку практычнага выкарыстання беларускай мовы. У гарадах ствараць беларускія школы, ліцэі, гімназіі, тэхнікумы, а большасць ВНУ пакінуць на самавызначэнне. Студэнты — дарослыя людзі, самі зробяць выбар.

Сёння, на маю думку, толькі двухмоўе можа вырашыць усе праблемы моўных зносін на Беларусі. Адмахвацца ад гэтай з'явы амаральна. Здабыць жа нацыянальную мову беларусам дапаможа час. Перакананне "Я — беларус" трэба выпакутаваць.

Наталля Чарнабай.
Брагінскі раён.

## І застанёмся немчурамі...

Мова маці маёй становіцца мёртвай. Чаму?! Я пішу на гэтай мове, але ж ці багата хто чытае? А ці яна маім землякам брыдкая, а ці на слых непрывабная? Чаму так здарылася, што яшчэ нашы далёкія продкі: дрыгавічы, радзімічы і заходнія крывічы хацелі данесці да нас мову, а мы, няўдзячныя, цураемся яе? І застанёмся немчурамі...

Вунь крычыць птушка-каня і плачуць самотныя буслы. Вунь мы загубілі лясы, распрадалі і за грошы, увогуле, гатовы адмовіцца ад сваёй Радзімы, прадаць народ, духоўную культуру. Мы сталі да агіднасці чэрствымі... І нават казкі сёння пісьменнікі нашы ствараюць на нейкай агіднай, нялюдскай, казённай мове, бо ў маленстве не ўмелі ўважліва слухаць сваіх бабулек, якія здаваліся ім нямоднымі. А ці можа вырасці адукаваны, дасведчаны пісьменнік на народнай глебе? Вось і ляжаць паэтычныя зборнічкі на паліцах кнігарняў ды бібліятэк, удастоеныя быць пазначанымі макулатурным пылам. Толькі тая нацыя можа называцца цывілізаванай, калі кожны, бы табліцу множання, ведае сваю радаслоўную. А мы, беларусы, карані свае згубілі недзе ў радыяцыйнай капусце.

Наламалі мы дроў. То хацелі раптам зрабіцца цвярозымі, то спадзяваліся, што па ўзмаху чарадзейнай палачкі ўсе загаворым па-беларуску. І вось засталася наша штодзённая трасянка-аўсянка ды з маннай грэчкай. А манна нябесная ўсё не прылятае.

"Вам не мулит?" — пачуў я нядаўна ў трамваі... "Ходют тут всякие", — чую яшчэ часцей. Вось так і з нацыянальнай культурай беларускага народа. Мабыць, надта ж некаму яна "мулит"...

Класікаў сёння мала хто чытае. Класікаў замянілі "відзікі".

Маёй мове звязалі язык і паліваюць яе злымі языкамі.

Іншы настаўнік беларускай мовы сядзіць за сталом і думае. У той час, як вучні робяць выгляд, што чытаюць іх, настаўнік думае... на рускай мове.

Аб'яўляю рэспубліканскі конкурс: хто здолее цэлы дзень размаўляць на роднай мове і без памылак. Хто, акрамя пісьменнікаў ды прафесароў філалогіі. Дый тыя нават ужо ў крамах баяцца загаварыць па-беларуску, баяцца, каб не аблічылі.

Кастусь Карнялюк.
г.Віцебск.




# "Кнігарня пісьменніка" або "ЛАВКА ПИСАТЕЛЯ"?

## Зварот да беларусаў

На Беларусі шмат кнігарань, але "Кнігарня пісьменніка" адзіная. Неяк няёмка хваліцца, але ж не сакрэт, што такая кнігарня, якую ведаюць усе ў Мінску і далёка за яго межамі,— гэта вынік адзінаццацігадовай працы калектыву з дапамогай пісьменнікаў і выдавецтва "Мастацкая літаратура". Гэта не проста гандлёвая кропка, а нацыянальны культурна-асветніцкі асяродак. Мы маем самы шырокі асартымент беларускай літаратуры, збіраем кнігі беларускіх пісьменнікаў з іншых кнігарань Беларусі і, вядома, прадаём іх. Натуральна, што "Кнігарня пісьменніка" — цэнтр па прапагандзе і распаўсюджванню беларускай кнігі. І ці мог хто падумаць, што над намі збяруцца цяжкія чорныя хмары і справа дойдзе аж да суда?

Памяшканне, дзе працуе кнігарня, ніколі не было прыватнай маёмасцю Літфонду. У 1979 годзе Партызанскім райвыканкамам яно было перададзена ў арэнду Літфонду для адкрыцця менавіта "Кнігарні пісьменніка". Больш як год пуставала памяшканне. Потым СП Беларусі звярнуўся ў Дзяржкамвыд з просьбай адкрыць беларускую кнігарню, апорны пункт выдавецтва "Мастацкая літаратура". Была прынята пастанова за подпісам М. Танка і М. Дзяльца. Так "Белкніга" адкрыла для пакупнікоў дзверы яшчэ адной кнігарні. Мы неслі да чытача роднае слова, выконвалі планы. А што датычыцца Літфонду, то адзіным яго клопатам за ўсе гэтыя гады было пералічэнне нашых грошай за памяшканне.

У верасні 1991 года Літфонд вырашыў адабраць памяшканне ў калектыву, стварыць тут гандлёвае прадпрыемства "Лавка писателя" і наладзіць у ім продаж розных тавараў малых прадпрыемстваў. Самае жахлівае ў гэтай непрыгожай справе тое, што некаторыя пісьменнікі падтрымліваюць кіраўнікоў Літфонду, які, відаць, не дужа паважае беларускую кнігу. Хіба ж яны не сякуць сук, на якім сядзяць? А мо ўжо не збіраецца свае творы выдаваць?..

Няўжо так званы рынак імгненна змяніў псіхалогію носьбітаў духоўнасці?

Мы пераканаліся: на вялікі жаль, далёка не ўсе пісьменнікі ведаюць, што робіць літфондаўскае кіраўніцтва з дапамогай "пісьменнікаў". А гэта ж яно, прагнучы зрабіць нас беспрацоўнымі, падало на нас у суд, каб зруйнаваць тое, што стваралася намаганнямі многіх людзей. Гэта яно прымушае калектыў вось ужо колькі часу хвалявацца за сваю будучыню.

Мы разумеем, што за спінай Літфонду стаяць тыя камерцыйныя выдавецтвы, якія ўзначальваюць пэўныя члены СП Беларусі. Сюды прыйдуць людзі, якіх не хвалюе працэс адраджэння нацыянальнай культуры.

Адно здзіўляе: трэба так заўзята змагацца за памяшканне кнігарні ў той час, як у Доме літаратара, пад дахам якога існуе такі ваяўнічы Літфонд, пасяліўся за апошні час шэраг прадпрыемстваў, што не маюць ніякага дачынення да літаратуры. Апрача таго, у нашых нядаўніх сяброў была яшчэ адна магчымасць зрабіць па-людску: звярнуцца са сваімі камерцыйнымі праблемамі да вышэйшых улад. Пэўна ж, знайшлося б у сталіцы яшчэ адно памяшканне. А калектыў задае такое пытанне: чаму мы павінны стаць беспрацоўнымі? Толькі таму, што 11 гадоў таму назад не была заключана як трэба дамова? А хто тады пра гэта думаў?

Хочацца верыць, што беларуская кніга не будзе зусім занядбалая. У час, калі наша мова набыла статус дзяржаўнай, духоўнасць не павінна, не можа быць знішчана.

*Калектыў "Кнігарні пісьменніка". г.Мінск.*

## Замест каментарыя:

З ліста, які прыйшоў да нас ад калектыву Мінскай "Кнігарні пісьменніка", можна зразумець, што за краму змагаюцца дзве ўстановы: Літфонд і "Белкніга". Невялічкі, але вельмі працавіты і перспектыўны калектыў самой кнігарні не толькі не бярэцца ў разлік, але і становіцца аб'ектам шантажу, пагроз, аб'ектам, а не суб'ектам рыначных адносін.

Пад час размовы з дырэктарам "Кнігарні пісьменніка" мне былі прад'яўлены шматлікія дакументы, якія характарызуюць пазіцыю пэўных прадстаўнікоў як Літфонду, так і самой пісьменніцкай арганізацыі. У адным з дакументаў Рады Саюза пісьменнікаў чорным па беламу значыцца: "Рада СП считает нужным открыть в данном помещении торговое предприятие Литфонда "Лавка писателя". У тым жа дакуменце прапануецца вызваліць памяшканне для "последующего его переоборудования под торговое предприятие Беллитфонда".

Як жа абстаяць справы зараз? Калі коратка, падзеі развіваліся наступным чынам: пасля "ініцыятывы" Рады СП і Літфонду "Белкніга", якой арганізацыйна падпарадкоўваецца "Кнігарня пісьменніка", накіроўвае ў Партызанскі райвыканкам ліст з просьбай перадаць права арэнды памяшкання гэтай установе. Справа ў тым, што Літфонд здаў гэтае памяшканне ў субарэнду "Белкнізе" без ведама райвыканкама. Адказ быў адмоўным, бо райвыканкам, як аказалася, не мае права адмяніць пастанову гарвыканкама, у якой памяшканне "Кнігарні пісьменніка" было выдзелена . менавіта Беллітфонду. "Белкніга" звярнулася тады ў Мінскі гарвыканкам. Там быў нават падрыхтаваны праект станоўчага ў адносінах да "Белкнігі" рашэння гэтай праблемы. Але лёс гэтай паперы, якая магла пакінуць на прылаўках кнігарні менавіта кнігі, а не сумніцельных якасцей касметыку, да гэтага часу не вырашаны. Перакладаюць яе са стала на стол ужо 3 месяцы...

Апошнія звесткі такія: Беллітфонд падаў у суд на "Белкнігу".

Што ж здарылася ў такім прыстойным пісьменніцкім сямействе? Чаму пэўныя прадстаўнікі, здаецца, самай беларускай з усіх беларускіх устаноў вырашылі пакінуць на волю бізнесу кнігарню, якая ў мінулыя гады адна рэалізоўвала больш за 50 працэнтаў накладу выданняў гэтых самых пісьменнікаў? Прычына ёсць: неабходнасць сацыяльнай абароны пісьменнікаў. Але не верыцца, што кнігарня, якая нават у лепшыя гады прыносіла прыбытак не большы за 50 тысяч рублёў, сапраўды дапаможа вырашыць сацыяльныя праблемы пісьменнікаў. А вось ці застанецца ў новай краме хоць адна з паліц для іх жа кніг? Бо па логіцы рынку іх месца павінны заняць Чэйз або "Джэк-патрашыцель"... Так, кнігарня пісьменніка сваю ролю выканала. Дзякуючы ёй на паліцах пісьменніцкіх бібліятэк з'яўлялася такая дэфіцытная ў ранейшыя часы мастацкая літаратура. Што ж, "маўр зрабіў сваю справу — маўр можа сыходзіць?"

Ох, якая грызня пачалася за памяшканні, якія знаходзяцца ў цэнтры Мінска! Так, бізнес ёсць бізнес... Але калі пісьменнікі (дзякуй Богу — не ўсе) вырашаюць зрабіць з "Кнігарні пісьменніка" "Лавку писателя", становіцца магчымым паставіць пад сумненне прагу такіх "барацьбітоў" за беларускую культуру адраджаць яе на самай справе.

*Алесь ПАЛЫНСКІ.*




Майскі нумар часопіса "Беларуская мова і літаратура ў школе" пачынаецца з нататкі пра тое, як вядзецца падрыхтоўка да акадэмічнай канферэнцыі па беларускім правапісе. Гаспадарскі клопат пра ўнармаванне правапісу ёсць і ў артыкулах аб беларускіх найменнях хімічных элементаў, аб правапіснай норме накшталт бярэм, нясем. У гэтым жа раздзеле –"Школа і нацыянальнае адраджэнне" – працяг размовы пра змест літаратурнай адукацыі ў нашых школах.

Часопіс змяшчае матэрыялы, у якіх з розных пазіцый разглядаюцца асаблівасці творчасці народнага песняра Янкі Купалы, празаікаў Леаніда Дайнекі, Вячаслава Адамчыка, больш маладых пісьменнікаў Алеся Асташонка, Адама Глобуса, Андрэя Федарэнкі, Анатоля Казлова. Падаюцца артыкулы па методыцы выкладання мовы (у прыватнасці, аб выкарыстанні на ўроках апорных канспектаў). Нататкі па гісторыі беларускага мовазнаўства (са спадчыны Зарыяна Даленгі-Хадакоўскага) ілюстраваны цікавай картай, складзенай паводле работ вядомага даследчыка-беларусіста. На ёй паказана пашыранасць беларускіх гаворак на тэрыторыях па-за межамі сучаснай Беларусі.

У раздзеле "Калі закончыўся ўрок" змешчаны матэрыялы для арганізатараў беларускамоўных летнікаў.

Раздзел "На ростанях" распачынаецца нататкамі пра купалаўскія мясціны на Міншчыне. У ім падаецца таксама матэрыял пра мастакоўскі талент Уладзіслава Галубка, артыкул "Перад мінуўшчынай і вечнасцю", у якім ідзе размова пра неабходнасць паважліва ставіцца да месцаў апошняга людскога спачынку, шанаваць памяць продкаў.

Часопіс знаёміць чытачоў з творчасцю і развагамі пра надзённае і вечнае мастака Міколы Купавы, адзначае ўгодкі асобных літаратараў, змяшчае вершы выкладчыка з Магілёва Васіля Рагаўцова.

*Агляд падрыхтаваў Іван Ждановіч, супрацоўнік рэдакцыі часопіса.*




Музычны выпуск "Нотны аркуш" вядзе журналіст Вітаўт Мартыненка, тэл. 39-87-94.

№ 8 (198)



# Фанатэка




**Уладзімір Кандрусевіч "КЛЕМЕНС" Беларускае радыё, 1980**

Трохі дзіўна, калі творы саліднага кампазітара з імем даводзіцца прадстаўляць толькі цераз прадукцыю кааператыўнага аудыёбізнесу. Але такі лёс Беларусі і ўласнай культуры ў ёй: раней нашае Міністэрства культуры сціпла пачэсвалася каля ўласнага месца ва ўсесаюзным монстры "Мелодыя", якое нехта заняў, а цяпер, набыўшы суверэннасць, рэспубліка забыла прыдбаць набор "камплектуючых дэталяў" да яе.

У такіх умовах перспектыва выдавацца за кошт бруднага хабару і несумленных праштурхоўванняў не прываблівае многіх беларускіх прафесіяналаў, хоць прадстаўнікоў розных жанраў нашай музыкі з задавальненнем запісваюць фірмы Амерыкі, Польшчы, Францыі і г.д. А гэта прынамсі сведчыць пра дастаткова моцны выканаўчы ўзровень нацыянальнай школы.

Калі нярэдка чуеш, што ва ўсім мы ідзём выключна па кроках "старэйшага брата", гэта выглядае плоскім жартам для тых, хто ведае лёс нашай музыкі. Мы проста самі сябе не чуем і не ведаем. Дык, здаецца, тым больш: ці маем права на зневажальныя параўнанні?

Давайце прыгадаем 1980 год. Росквіт хлуслівай "эпохі Брэжнева". Усе адчувалі амаральнасць нашага жыцця, але большасць маўчала. Сёй-той прарываўся на Захад, каб выказацца, але слова праўды патрэбнае было тут. Толькі праз тры гады публіка адкрые сабе "Машину времени", "Аквариум", "Примус"...

Але ў Беларусі ўжо ў 1980-м годзе на прафесійнай сцэне гучала: "І гэты лад, і гэты час не назаўсёды". Гэта Белдзяржтэатр імя Я.Коласа ў Віцебску зрабіў на сваёй сцэне арыгінальную пастаноўку аповесці літоўскага пісьменніка Казіса Сая "Клеменс". Ужо тады наш калгасны лад быў пастаўлены пад сумненне ў вострай гратэскнай форме. Музыка і песні да спектакля прывабілі асобую ўвагу публікі і касета з іншымі запісамі пачала гуляць у якасці асобнага альбома.

Ды нядзіўна. Тут было не толькі актуальнае ззянне тэмы, але і ейная прафесійная распрацоўка: над творам працавалі кампазітар Уладзімір Кандрусевіч і паэт Алесь Разанаў, выкананне – рок-гурта "Сузор'е".

Альбом складаецца з наступных кампазіцый: "Пане бугай", "Клеменс", "І гэты дзень", "Даўно-даўно, да скону дзён", "Паляцяць у вырай гусі", "Дзікі кмен", "Ты будзеш лютаю зімой..." і некалькіх інструментальных п'ес.

Мо настане дзень, калі беларус будзе гаспадаром на сваёй зямлі і ягоная культура дасягне росквіту, сустрэне разуменне масавай публікі, дык можна спадзявацца, што альбом У.Кандрусевіча "Клеменс" зойме пачэснае месца ў якім-небудзь серыйным "Архіве беларускага рока".




**"Уайтснэйк" "АБМОЎКА" EMI Электрола, 1989**

Гэты альбом, следам за анатаванай намі ў снежні 1989 года папярэдняй кружэлкай брытанскага ансамбля "Уайтснэйк", трапіў да нашых філафаністаў дзякуючы фанаграфічнай прамысловасці "братніх краін": спярша на наш рынак закінулі сваю прадукцыю фірмы Балгарыі і былой ГДР, а потым расстараліся індусы.

Індыйская фанаграфічная прамысловасць, заснаваная брытанцамі, даволі няблага працягвае выдавецкія традыцыі былых гаспадароў, п..му ейная прадукцыя асабліва жаданая ў калекцыях айчынных меламанаў: аператыўны выпуск музычных навінак, поўная адпаведнасць мастацкай аздобы арыгінала, добры ўзровень друку як самой грамплацінкі, гэтак і канверта, а пры гэтым даступныя цэны – гэта, бадай, галоўныя крытэрыі!

Пераходзячы да канкрэтнага выдання, пазначанага ў загалоўку, мы ўсё ж не будзем пераказваць біяграфію выканаўцы, бо рабілі гэта ў папярэдняй анатацыі на "уайтснэйкаўскую" прадукцыю. Нагадаем хіба, што гурт заснаваў вакаліст Дэйвід Кавердэйл пасля чатырохгадовай працы ў славутым ансамблі "Дып пэрпл".

Трэба яшчэ сказаць, што анатаваны раней дыск 1987 года, які вывеў "Уайтснэйк" у лік так званых гігантаў рока, запісваўся зусім не тым складам, што цяперашні аб'ект нашай увагі, але змены не надта адбіліся на якасці музыкі. Відаць таму, што нязменным генератарам ідэй калектыву з'яўляецца ягоны лідэр Дэйвід Кавердэйл. Альбом "Абмоўка" ён запісваў разам з наступнымі музыкамі: Стыў Вай (гітара), Адрыян Вандэнберг (гітара), Руды Сарцо (бас-гітара), Томі Олдрыдж (бубны).

На вокладку дыска ў якасці рэкламнага слогана вынесена: "Альбом уключае ў сябе гіт "Шалеючы ад твайго кахання".

Прызнацца, не кожны зразумее, чаму менавіта на гэтай кампазіцыі спыніў свой выбар менеджэр, бо, паводле дынамічнасці, ёй не саступае ні загалоўны твор, ні "Крылы шторма", ні "Дзень пакарання", а, паводле меладычнай прыгажосці, нават пераўзыходзяць творы "Захопленыя каханнем", "Караблі пад ветразямі".

Увогуле "Уайтснэйк" стварае музыку гэтак званага гітавага напрамку ў стылістыцы гард-рока, таму не трэба здзіўляцца, што ўсім творам анатуемага альбома характэрна дынамічная кампазіцыйная структура, меладычная насычанасць. Гэта датычыць і "Музыкі павольнага штуршка", і "Кацяня выпроствае кіпцюры", і "Танны ды брудны", і "Цяпер ты закаханы".

# Відэасалон



Выступае рок-гурт "Роксэт" (Швецыя).
Фота КЕЙСТАН.



# Відэатэка




**"БЕЛАРУСКІ РОК" Берома, 1992**

Калі ва ўсім свеце відэакасеты, кампакт-дыскі, відэа-дыскі (не гаворачы ўжо пра грампласцінкі) стабільна ўвайшлі ў быт масавага спажыўца, у нас гэта ўсё яшчэ пакуль з'яўляецца эксперыментальнай дзялянкай прыватнага прыкладання рук і мазгоў. Дый балазе, бо нядаўна не было й таго.

Зусім нядаўна мы шалёна радаваліся, што ў каталогах шэрагу прыватных студый з'явіліся запісы магнітафонных альбомаў беларускіх поп- і рок-гуртоў, бардаў, што яны карыстаюцца попытам. Але з'яўленне падобных відэазапісаў стала новым вітком у прапагандзе беларускай масавай культуры. І не бяда, што дзяржаўную ініцыятыву апярэджвае прыватнае прадпрымальніцтва. Галоўнае, што пры жаданні кожны цяпер можа прыдбаць у свой архіў, у прыватнасці, трохгадзінную відэапраграму "Беларускі рок", якую сабрала незалежная студыя "Берома".

Праграма складаецца і з відэакліпаў, і з запісаў жывых канцэртаў, і са студыйных запісаў пад фанаграму. Як бы тое ні было, але па змесце гэтая зборка заслугоўвае самых высокіх ацэнак, бо відэапартрэт такой з'явы, як беларускі рок, атрымаўся амаль вычарпальным: нацыянальная рок-плынь прадстаўлена ад пачынальнікаў да самых апошніх зорак. Хоць і шкада, зразумела, што шэрагу калектываў тут нестае для паўнаты карціны ("Магістрат", "Блізняты", "Рокаш", "Белы крук"), але творчасць тых зорак прыпадала на часіны глыбокага застою, адкуль прарвацца да публікі ўдалося не ўсім.

Затое ёсць на гэтай відэакасеце і адзін з лепшых беларускіх відэакліпаў: "Бонда" — "Ура!" Ён быў зняты на кінастудыі "Беларусьфільм" і толькі аднойчы трапіў у тэлевізійны эфір. Прыгожыя, маляўнічыя здымкі ў ваколіцах Верхняга горада; эфектны, дынамічны мантаж з канцэртнымі запісамі; вострая публіцыстычная тэма кліпа (спадчына сталінізму) — усё гэта дае магчымасць залічыць кліп у беларускую класіку відэа.

Творчая біяграфія менскага гурта "Рэй" была значна карацейшая за шлях "Бонды", але калектыў паспеў пакінуць па сабе ажно два відэакліпы. Адзін з іх — "Лебядзіны крык" — меў асабліва шчаслівы лёс, бо трапіў у цэлы шэраг папулярных тэлепраграм. Затое "Храмы падаюць" прыхільнікам беларускага гэві-метал-рока давядзецца паглядзець упершыню на гэтай касеце.

Нядоўга мільгала на музычных афішах і назва цікавага рок-гурта "Рокіс", але ягоны кліп "Запомні яго такім" паспелі пабачыць і ацаніць многія. Трапіў ён і на гэтую касету побач з шэрагам канцэртных выступаў "Рокіса": кампазіцыі "Пагоня", "Народжаны тут", "Бяжы, хлопец", "Здраднік". Пазней дзве апошнія гурт працягваў выконваць, змяніўшы назву. Цяпер гэта гурт "Крама".

З менскіх калектываў ёсць яшчэ на касеце відэазапісы "Мроі" ("Так і трэба", "Гуляй, душа", "Гульня ў жыццё"), "Новага неба" ("Ты прыходзіш").

Прыкметнае месца займае ў "Беларускім року" і полацка-наваполацкі рэгіён. Папулярны "Мясцовы час" выконвае тут "Я жыў", "Ускраіну", "Шлях дамоў". А класная трэш-металёвая каманда "Дзіда", якая са сваёй авангарднай музыкай пакутуе на дэфіцыт разумення ў рэспубліцы, паставіла ў гэтую відэапраграму відовішчны канцэртны нумар "Ты душу прадаў сатане".

Затое маладыя арт-рокавы гурт "Грунвальд" зафіксаваўся тут двойчы адметнымі кампазіцыямі "Варварам з Валынцаў" і "Грунвальд".

Беларускі поп-рок прадстаўлены не надта шырока: толькі адну кампазіцыю ("Шыхт, зважай!") выконвае віцебская група "Грамада", хоць на Беласточчыне яна лічыцца, бадай, самым папулярным беларускім рок-гуртом.

А там, на Беласточчыне, у замежнай Беларусі, ёсць і свае зоркі беларускага рока. Ансамбль "Альбаросіка" ўяўляе сабой цудоўны і унікальны варыянт беларускага рэгей (творы "Гэй, Нью-Йорк", "Спі, сыночак мілы", "Я праўды хачу").

На жаль, у кароткай анатацыі немагчыма падрабязна спыніцца на кожнай песні, бо праграма відэазборкі "Беларускі рок" багатая і разнастайная. Дый нестае тут вычарпальнай інфармацыі на кожны нумар. Агулам можна сказаць, што ў стварэнні гэтай прадукцыі прынялі ўдзел рэжысёры Сяргей Шынкарэнка, Эвальд Гатоўскі ды іншыя. Дзяржаўныя тэлевідэаструктуры звялі амаль на нуль іхнюю працу, бо пасля аднаго-двух паказаў відэастужкі там размагнічваюцца. І толькі студыя "Берома" вярнула нацыянальны скарб да жыцця.



**"МІЛАЯ, Я ЗДРАБНІЎ НАШЫХ ДЗЯЦЕЙ" Уолт Дысней хоўм відэа, 1990**

Распачынаючы ў "Нотным аркушы" новую рубрыку "Відэатэка", аб'ектам увагі мы абралі на першы погляд не тую касету, якая б адпавядала тэматыцы нашага музычнага выпуску, але... Хіба толькі на першы погляд. Хоць перад намі — не падборка відэакліпаў ды не відэарэпартаж з якогасьці канцэрта, а звычайны мастацкі фільм, у нас ёсць усе падставы пагаварыць пра музыку. У дадзеным выпадку пра кінамузыку.

Праўда, спачатку колькі слоў наогул аб прадукцыі, што змешчана на гэтай відэакасеце фірмы "Уолт Дысней хоўм відэа". Спачатку ўвазе гледачоў прапануецца стары (1947 г.), але адноўлены ў цудоўных колерах фірмай "MGM" (1970 г.), мультыплікацыйны фільм Роба Мінкофа "Жахлівы Томі". Гэта вясёлыя прыгоды немаўляткі Томі і зайца-выхавальніка, на якога таго пакінулі.

Мастацкі фільм Джо Джонстана "Мілая, я здрабніў нашых дзяцей" зняла кінастудыя "Буэна Віста пікчэрс" у 1989 годзе, а ў 1990 ён быў адзначаны як лепшая кінакамедыя года ў ЗША. Дый сам рэжысёр гэтага фільма Джо Джонстан — колішні лаўрэат Academy Award, якая была прысуджана яму за ўдалае выкарыстанне візуальных спецэфектаў у ранейшых фільмах.

Музыку для абодвух гэтых фільмаў (як мультыплікацыйнага, гэтак і мастацкага) стварыў кампазітар Джэймс Горнэр.

Вельмі прыкметнай уяўляецца такая дэталь. Калі гаворка ідзе пра камедыйны фільм, дык і музыка па звычцы чакаецца ад яго гэткая вельмі вясёлая, бадзёрая. Праўда, гэты стандарт часам псуе ўражанне тым, што самі жарты ў фільме — тупыя і груваcткія — часам падкрэсліваюць такі ж характар музыкі.

Джэймс Горнэр выбраў іншы шлях. Бадай, гэта шлях парадаксальны. Яшчэ на цітрах нас сустракае ў музыцы напружаны настрой неверагодных сюрпрызаў, нечаканых паваротаў лёсу. Здаецца, гэта адпавядае і настрою фільма, дзе камічныя эфекты створаныя не крыўляннем герояў ды грубымі жартамі, а нечаканым паваротам падзей.

Такім чынам з дапамогай музыкі дасягнута адпаведная настраёвая аўра фільма.

Трэба заўважыць, што Джэймс Горнэр, працуючы над музычным афармленнем фільма, выкарыстоўваў і творы іншых аўтараў. Гучыць тут і тэма Ніно Рота з фільма Ф.Феліні "Амаркорд", і песня Джэлані Джонса "Агонь", якую ён выконвае з групай "Плэнет-16", і кампазіцыя Гары Малабера ды Джона Масаро "Электрагульня", і п'еса Джэфа Песцэта і Патрыка Дорэмера "Падымі гэта", якую выконвае Нік Камэн. Бадай, не ў кожным музычным фільме сустрэнеш столькі разнастайнай музыкі. І што цікава: яна не пераважвае сюжэт, не лезе занадта ў вушы. Яна проста ёсць. Яна прысутнічае ў фільме, як і ў жыцці кожнага з нас. Хочаш — заўважыш, а хочаш — не.

# НЕ СПЫНЯЕ КОЛЫ "РОКА-КОЛА"

*Хоць над Наваполацкім гаркамам СМБ пад бела-чырвона-белым сцягам яшчэ красуецца лозунг "Слава советскому народу!" (а дзе цяпер той народ і хто будзе, нарэшце, славіць беларускі народ?), усё ж праца мясцовых маладагвардзейцаў зусім не асацыіруецца з былым камсамолам. Яшчэ будучы камуністычным, гаркам думаў не толькі пра палітыку, але і пра тое, каб моладзі было цікава звяртацца да яго. І вось адной з праяваў гэтага гарманічнага сужыцця маладзёжнага саюза з моладдзю стала тое, што толькі ў Наваполацку на сённяшні дзень дзейнічае адзіны нацыянальны рок-клуб. Ужо трэці раз напрыканцы травеня ён і правёў у горадзе традыцыйны фестываль "Рока-кола", рэпартаж з якога прапануе наш карэспандэнт.*


Юрась Ляўкоў ("Мроя") адчувае сябе ў Наваполацку, як дома.

Фестывалі ў былой імперыі патроху згасаюць разам з ёю. Асабліва рок-фестывалі. Некамерцыйная музыка, эканамічная і гаспадарчая разруха ў краіне, фінансавая нестабільнасць патэнцыяльных гледачоў. У гэтых умовах асабліва прыемна, што "Рока-кола" выжыла ды яшчэ з гарадскога агляду здолела перарасці ў фэст рэспубліканскага значэння. Зразумела, усё гэта дзякуючы самаадданасці такіх энтузіястаў, як прэзідэнт рок-клуба Сяржук Анішчанка.

Інфармацыю пра фестываль папярэдне далі маладзёжныя газеты, радыёстанцыя "Беларуская маладзёжная". Іхнія карэспандэнты і прыехалі ў гэтыя дні ў Наваполацк.

Праўда, усё ж падвялі віцебскія кампаньёны, якія абяцалі паставіць на "Рока-кола" фірменны канцэртны панарамны апарат "Dynacord" ды перапрадаліся потым Багдану Ціцаміру, зорцы, якімі ўсё яшчэ абстрэльвае нас даволі інтэнсіўна суседняя імперыя. Дзякуй Богу, рок-клуб меў запасны варыянт, і сцэну фестывальнага палаца ўпрыгожыла больш сціплая, але не менш надзейная панарама "Tesla".

У журы я працаваў побач з другім сакратаром гаркама СМБ М.Паўлавым, інструктарам Віцебскага абкама СМБ Альдонай Загорскай, інструктарам аддзела культуры гарвыканкама Л.Касьянавай, журналістамі Віталем Сямашкам і Алесем Лейтманам, паэтам Алесем Аркушам. Не здзіўляйцеся, што шмат людзей, бо было і шмат працы: да конкурсу дапусцілі 15 калектываў з Полацка, Наваполацка, Мазыра, Новалукомля, Глыбокага, і сярод іх трэба было вызначыць трох лепшых.

Адкрыў конкурсную праграму "Грунвальд". Праўда, паводле жэраб'ёўкі, ён выступаў 13-м, але ўсе пабойваліся "вызначыць настрой публікі" і на гэты крок асмеліўся "Грунвальд". Дый добра зрабіў, бо нават адна кампазіцыя ў маштабным, дынамічным, прыгожым арт-року здолела закінуць у душы слухачоў надзею на цікавыя адкрыцці, што наўрад ці ўдалося б сумнаму і зацяганаму "Городскому населению", якое выступала потым.

Такую ж (хоць і тэхнічную, але без асаблівай фантазіі) музыку прадэманстравала і "Техника безопасности". Пэўнай наіўнасцю патыхала ад арыгінальнага сімбіёзу ранніх рок-стыляў групы "Коледж А" (яе нават заўважылі некаторыя сябры журы, хоць балаў усё ж не хапіла), але ўсе гэтыя калектывы выклікалі сум сваім большым ці меншым стараннем пераžоўваць даўно ўжо адпетыя чужыя мелодыі, рытмы і тэмы.

Зразумела, хоць мода на той ці іншы стыль з часам праходзіць, але ягоныя фаны застаюцца і застаюцца адданымі заўзятарамі сваіх куміраў. Вось ты, шаноўны чытач, любіш гард-рок? Але як бы табе спадабался гард-рок у стылі Алы Пугачовай? Менавіта такую музыку, дзе тыпова эстрадныя куплеты з прыпеўкамі былі загнаныя ў 70-х накшталт "Smokie", дык і "Посредник" дэманстраваў прыкметнае эпігонства а-ля "піцерскі панк". Розніца была хіба ў тым, што "Вчера", год ад году набіраючы вопыт, патрафіла стварыць добра збітую, шчыльную музыку.

Зміцер ШУТКО ("Дзіда") на шляху да перамогі.


"Мясцовы час" трымаецца ўпэўнена.

Але вось на сцэну выходзіць "Дзіда". Ад іх чакаюць не толькі збітасці і музычнай пісьменнасці, а сур'ёзнага вырашэння няпростых творчых задач. У стылістыцы гурт спыніўся на шляху ад трэш-металу да гард-рока, музыцы нязвыклай, але ёмістай, якая прэтэндуе на жывое абуджэнне і разумовых, і эмацыянальных цэнтраў чалавека. Шэраг новых кампазіцый "Дзіды" з выдатным шоу (сцэнічны рух, палаючыя паходні, піратэхнічныя гарматы) літаральна завялі фанаў ля сцэны, а сярод журы (я адчуў адразу) нарэшце з'явілася разуменне, што, нават не з'яўляючыся фанатам метал-рока, можна адчуць пісьменную, віртуозную ігру.

Наступнай выйшла на сцэну яшчэ адна трэшавая каманда "Крэшар" з Новалукомля. Раней яе ніхто тут не чуў, дый сам "Крэшар" упершыню выступаў на такой вялікай сцэне, перад такой вялікай аўдыторыяй. Паводле ўзросту гэта аказалася наймалодшая група фэсту — музыкам усяго па 17—20 гадоў. Але клас яны паказалі проста нечаканы. Зала слухала і напружана глядзела, як музыкі жылі ў сваёй музыцы. Супер-гітам фэсту стала іхняя кампазіцыя "Апошняя бітва".

І яшчэ адна прыемная навіна: выступ "Крэшара" на "Рока-кола-92" стаў апошнім рускамоўным выступам каманды. А гэта ж не ўпершыню, што фестываль даў адчуць многім маладым творчым людзям, куды ідзе зараз Беларусь, паспрыяў усталяванню добрых кантактаў паміж музыкамі і паэтамі.

Выступ вядомай ужо віцебскай каманды "Магіctр" таксама пацвердзіў плённасць гэтых фестывальных сустрэч. Гурт не толькі вярнуўся да роднай мовы, але і ўдасканаліў свой стыль, знайшоў цудоўнага вакаліста.

Група "Транзіт" з Глыбокага выступала з наваполацкім танцавальным ансамблем "Воскресенье". Гэта было някепскае шоу, але мне асабіста было сумна чуць яўныя перапевы і жартачкі з маскоўскага рэпа. Мяркую, калі ўжо нешта запазычваць, дык толькі з першакрыніц. А лепш жорсткія рытмы рока, прапанаваў ансамбль "Квазар". Зрэшты, гэта была няблага збітая музыка для вострых танцаў, але ў гэтай збітасці з ланцуга выпадала адно звяно — вакал. Затое бас-гітара працавала "за дваіх".


"Грунвальд" – лаўрэат "Рока-кола-92".

Калісьці музыкі амерыканскага гурта "Ramones" заявілі: "Нас абвінавачваюць, што граем толькі тры акорды. Магчыма, затое гэта правільныя акорды". Не ўпэўнены, ці змог бы гэтак лёгка абараніць свае тры акорды "Отдел кадров", але свежым і арыгінальным мне асабіста падаўся тут толькі бубнач.

Калісьці я звярнуў увагу на астаткі каланіяльнай свядомасці ў творчасці гэтых беларускіх музыкаў, дык на гэтым фестывалі яны выбухнулі такім гучным фельетонам, прысвечаным "крытыку з "Чырвонай змены", што, маўляў, трымай, дзядзька, шапку. І калі ў канцы песні прагучала "сам г..но", я зразумеў, кім адчулі сябе музыкі пасля крытычнага водгуку.

Ансамбль "Пентагон", які выканаў экзатычную музыку накшталт цяжкага рэгей, завяршыў першы конкурсны канцэрт. Музыка іхняя, шчыра кажучы, давала прыемную магчымасць адпачыць, але захаплення асаблівым выканаўчым узроўнем або нейкімі новымі тэмамі не выклікала.

Трэба сказаць, што і пасля антракту адкрыцці пачаліся не адразу. Калі якасны выступ гурта "Вчера" толькі будзіў настальгію фанаў поп-рока і зусім без гэтага. Тым не менш многім спадабалася, што былы вакальна-інструментальны "Транзіт" заняўся імпартам рэпа ў Беларусь. Ну што ж, як кажуць: "Хоць з Ганконгу", але амаль як японскае"...

Затое арт-рок "Грунвальда" з цудоўнай пявучай гітарай Валеры Вашчанкі пацешыў і прыгажосцю роднай мовы, і свежасцю вечных тэм. Характэрныя рысы "Грунвальда" — гэта напруга, дынаміка, маштабнасць.

На завяршэнне конкурснай праграмы засталіся два непаразуменні: мазырскае "Собственное мнение", якое сваёй музыкай не выказвала ніякай уласнай думкі, і англамоўнае трыо "Шурык унд Пэнгелінс", якое, відаць, адштурхоўвалася ад нейкай арыгінальнай задумкі, ды не паспела яе ўвасобіць, бо двое з трыо — музыкі бессмяротнай "Дзіды": бубнач Уладзя Дзёмін, які граў на гітары, і гітарыст Зміцер Шутко, які граў на басе.

Пасля сямігадзіннага праслухоўвання журы яшчэ чакала праца ў прэс-цэнтры фестывалю. Прызнацца, яна пайшла даволі спора, бо ўсе людзі аказаліся зацікаўленыя. І нават, як я ўжо заўважыў раней, разуменне знайшлі такія контраверсійныя напрамкі рока, як трэш-метал.

У выніку падсумоўвання балаў тайнага галасавання лаўрэатамі "Рока-кола-92" сталі наваполацкі "Грунвальд", полацкая "Дзіда" і глыбоцкі "Транзіт". Заставаліся яшчэ два спецыяльныя прызы. Прыз журы атрымаў віцебскі "Магістр", а прыз аддзела культуры Наваполацкага гарвыканкама — наваполацкае "Вчера".

Усе гэтыя калектывы разам з гасцямі на наступны дзень выступілі ў гала-канцэрце фестывалю. А сярод гасцей былі і славутыя нашыя зоркі "Мроя" (Менск) ды "Мясцовы час" (Полацк), былы мінулагодні лаўрэат "Кадэцкі корпус", выступіў таксама кароль мясцовых дыскатэк "Ален". А "Мроя" разам з "Мясцовым часам" стварыла цудоўны гімн рок-н-ролу, які прагучаў як фестывальны гімн.

Дарэчы, я заўважыў, як прагнулі выступіць на фэсце (асабліва ў гала-канцэрце) многія выканаўцы. Гэта не давала ім вялікіх матэрыяльных выгад, а адсутнасць тэлебачання не абяцала і належнай рэкламы (хіба толькі меўся шанц хоць на хвіліну трапіць у эфір "Беларускай маладзёжнай"). Дык адкуль жа такая прага? Многае растлумачыў лёс вельмі папулярных ужо ў Рэспубліцы песень "Алена".

Для кожнага выканаўцы вельмі важныя сустрэчы з публікай. Адсутнасць добрага шоу-бізнесу ў рэспубліцы прымушае нашых зорак, якія тонуць у шквале суседніх мас- культур, шукаць для паратунку хоць бы саломінку. І якое ж шчасце адчуў Сяржук Хамякоў ("Ален"), калі яму ўдалося трапіць на праслухоўванне ў тэлеконкурс "Лідэр-92". Дый песні ягоныя з аднолькавым захапленнем слухала ўся "выбарчая камісія" тэлебачання: і А.Хлястоў, і А.Спірыдовіч, і Т.Касмачова, і нават сам А.Вавілаў. Але якое ж здзіўленне было ў Сержука, калі адзін з сяброў перадаў яму, што па выніку ехаць не трэба. Маўляў, Вавілаў сказаў, што ў іх ёсць свае кампазітары, свае паэты, свае выканаўцы, а ты ў іхнюю падвязку яшчэ не ўвайшоў. "Ален" усё ж звязаўся з Вавілавым і той сказаў: "Так, але я магу прыстроіць тваю адну-другую песню нашаму выканаўцу, калі жадаеш і калі пагодзішся на сааўтарства".

Мы яшчэ апублікуем некаторыя старонкі гэтай эпапеі, але ўжо і цяпер вядома, што і як робіць беларускі шоу-бізнес. Вось таму і карыстаюцца павагай выканаўцаў розныя альтэрнатыўныя праекты накшталт "Рока-кола". І калі выжыве "Рока-кола", выжыве і беларускі шоу-бізнес, а наваполацкаму фестывалю ўжо, дзякуй Богу, тры гады, і ён не згортваецца, а развіваецца.

Дзякуй табе, Аніса!

Дзякуй табе, Наваполацкі гаркам СМБ!

Вітаўт МАРТЫНЕНКА.
Фота У.ПАНАДЫ.


"Ален" ставіць свечку за "Лідэр-92".



# ЛЯВОНІХА НА АРБІЦЕ "ШЫННІКА"

**Першы беларускі фестываль народнага танца "Пярэзвы" адбыўся ў сярэдзіне мая ў Бабруйску. А прайшло танцавальнае свята ў Палацы культуры "Шыннік".**

Не хацелася б адразу з сумных дум, але... Ці было ўсё ж свята? Яшчэ год назад на "Палескім карагодзе" ў Пінску яго ўдзельнікі аднадушна прызналі: атрымалася свята дзеля свята. Выдатныя музыкі і спевакі, непаўторныя фальклорныя і народна-сцэнічныя калектывы, самаадданая праца арганізатараў і журы — усё гэта было і ў Бабруйску. Але, як аказалася, год — гэта яшчэ не тэрмін для фарміравання спажывецкага рынку народнай творчасці. І менавіта яна, паўпустая зала Палаца "Шыннік", лішні раз пераканала ўсіх у неабходнасці правядзення мерапрыемстваў, якія адраджаюць культурную спадчыну і народныя традыцыі Беларусі.

Бабруйскі фестываль у адрозненне ад папярэдняга, пінскага, да ўдзелу ў конкурсе запрасіў толькі калектывы, якія існуюць на тэрыторыях, атручаных Чарнобылем. І гэта надало яму асаблівае значэнне — непазбежнае перасяленне, міграцыя людзей з забруджаных тэрыторый вядзе да размыцця, а пасля і знікнення рэгіянальнай, самабытнай культуры, на ахове якой сёння і стаіць беларускі народны танец...

... Бабулям з фальклорна-этнаграфічнага калектыву вёскі Янова Веткаўскага раёна Гомельскай вобласці ўжо за 80. Менавіта людзі гэтага ўзросту яшчэ захавалі ў памяці матчыны песні, танцы і з'яўляюцца носьбітамі нацыянальнай культуры. Гарэзлівыя прыпеўкі, абрадавыя песні, песні святаў каляндарнага земляробчага цыкла, карагоды — усё гэта было своеасаблівым адкрыццём для слухача, выхаванага таннымі шлягерамі і рознай ступені цяжкасці рокам. Творчасць, заснаваная на глыбокіх традыцыях старажытнасці, на гуманістычнай ідэі гармоніі жыцця чалавека і прыроды, не пакінула залу абыякавай.




Народны ансамбль танца, музыкі і песні "Лёс" вёскі Бабічы Чачэрскага раёна Гомельскай вобласці сваю творчую біяграфію пачаў у 1972 годзе. На мінулагоднім фестывалі ў Пінску калектыў быў узнагароджаны спецыяльным дыпломам "За адраджэнне і захаванне мясцовых мастацкіх традыцый". У гэтым жа накірунку ансамбль і яго кіраўнік — настаўнік Бабіцкай школы А. Маркоўскі і працягваюць працаваць. Танцы, гульні, песні вёскі Бабічы — жывы, сапраўдны, непадробны фальклор з яго чароўнай радасцю самавыяўлення.

На высокім эмацыянальным і мастацкім узроўні выступалі калектывы з Мазыра. Удзельнікі гурта народнага танца і спеваў "Явар" Мазырскай трыкатажнай фабрыкі імя Крупскай — студэнты, навучэнцы вучылішчаў і школ, рабочыя, выхавальніцы дзіцячых садкоў, выкладчыкі. Народныя мясцовыя танцы, стылізаваныя харэаграфічныя ўзоры, народныя песні, інструментальная музыка Мазырскага Палесся — усё гэта вельмі спадабалася гледачам. І асабліва — лявоніха, наяўнасць якой у рэпертуары канкурсантаў была абавязковай. Другі калектыў з Мазыра — ансамбль народнай музыкі "Радуніца" Мазырскага РДК за сваю творчую біяграфію (а яна пачалася з сакавіка 1989 года) даў ужо больш за 100 канцэртаў. Удзельнікі ансамбля імкнуцца праз спевы і танцы паказаць беларускі характар з розных бакоў: і жыццярадаснасць народа, і ўменне весяліцца, смяяцца з сённяшніх недахопаў. Рэпертуар калектыву складаюць розныя найгрышы народнай музыкі і танцавальныя нумары. Адметна і тое, што ўсё гэта выконваецца ў тым тэкставым, меладычным і танцавальным варыянтах, у якіх былі запісаны. І бабруйчане змаглі ўбачыць карапэт, падыспань ці кракавяк менавіта такімі, якімі яны былі на Мазыршчыне яшчэ напачатку стагоддзя.

Фальклорны гурт "Радзімічы" Гомельскага РДК аб'яднаў сапраўдных аматараў і прапагандыстаў беларускай песеннай, танцавальнай, вуснай народнай творчасці. Беларускія народныя песні, жартоўныя сцэнкі, відовішчы па матывах беларускіх народных свят і абрадаў — усё гэта, зробленае цікава і ўмела, забяспечвае разнастайнасць і творчы поспех "Радзімічам". Ну, і, безумоўна, запамінальнымі застаюцца ў выступах гамяльчан тэатральныя элементы беларускага фальклору, а асаблівы каларыт у гучанне ансамбля ўносіць аркестравая група пад кіраўніцтвам Кастуся Дамасевіча.

Гавораць, што ў вёсцы Левашы Рэчыцкага раёна Гомельскай вобласці самымі запамінальнымі застаюцца тыя вяселлі, дзе іграе інструментальны гурт "Левашоўскія музыкі". Спакон веку вёска Левашы, што раскінулася на правым беразе сівога Дняпра, славілася сваімі музыкамі. І прыемна, што да цяперашняга часу захавалася іх майстэрства ў Левашах. Самыя здатныя гарманісты ў вёсцы — родныя браты Каленскія, якія ўжо даўно "падмянілі" свайго бацьку. І сёння разам з іншымі ўдзельнікамі гурта здзіўляюць нас не толькі гукамі свайго непаўторнага гармоніка, але і майстэрствам мастацкага свісту на бяросце...



Беларуская кадрыля. Здавалася б, даволі распаўсюджаны і знаёмы танец. А ці многія ведаюць, што сапраўднае паходжанне кадрылі — французскае, але, трапіўшы да нас на Беларусь, кадрыля настолькі "прыжылася", што ўраз называць яе "беларускай". Фальклорны гурт вёскі Курганне Рагачоўскага раёна Гомельскай вобласці ўдала выканаў менавіта беларускую кадрылю...

Словы падзякі і ўдзячнасці можна казаць усім удзельнікам фестывалю, бо ўсе яны разам і кожны з іх паасобку значна паўплываюць на вялікую справу адраджэння, аднаўляючы і захоўваючы мясцовыя народныя абрады і традыцыі, выхоўваючы нацыянальную свядомасць сродкамі беларускага народнага танца, узбагачаючы беларускую нацыянальную харэаграфію лепшымі сваімі ўзорамі. Што і казаць, яшчэ не забыты той час, калі пра беларускую харэаграфію ўвогуле не гаварылі, лічачы яе нечым сярэднім паміж расейскай і ўкраінскай. І вось сёлета ў Бабруйску (а на год раней у Пінску) яна паказала свой почырк, і ён аказаўся прыгожым, непаўторным, асаблівым. Канешне, былі і недакладнасці, памылкі ў некаторых элементах танцаў, але, як кажуць, на іх вучацца. І галоўнае, што хочуць вучыцца.

Прыемныя хвіліны сустрэчы з беларускімі спевамі і прытанцоўкамі засталіся ад выступленняў салістаў-выканаўцаў. Аксіння Касяннікава, Аксіння Паўлава, Настасся Бядуліна, Эмілія Кіршчына. Немаладыя ўжо жанчыны са стомленымі спрацаванымі рукамі на сцэне ператвараліся ў сапраўдных прыгажунь-беларусак, кожная са сваім характарам, манерай спеваў і танцаў.

Упэўнена, што журы прыйшлося нялёгка. Аднак, як таго і патрабуе конкурс, пераможцы былі названы. Імі сталі: сярод дарослых калектываў — народны харэаграфічны ансамбль "Рунь" ДК тэкстыльшчыкаў Магілёўскага арэнднага прадпрыемства шаўковых тканін (мастацкі кіраўнік — Віктар Папоў), сярод дзіцячых — узорны харэаграфічны ансамбль "Радасць" Палаца культуры завода штучнага валакна імя Куйбышава г. Магілёва (мастацкі кіраўнік — Галіна Новікава). Увага да нацыянальнага матэрыялу і ўменне данесці яго са сцэны, развіццё мастацкай ідэі праз складаную драматургію танца, густ і такт касцюмаў — усё гэта вызначыла пераможцамі магіляўчан.

Прыемныя ўспаміны засталіся ў бабруйчан і канкурсантаў ад выступленняў замежных гасцей фестывалю. Выдатны прыклад таго, як трэба берагчы свой нацыянальны фальклор і разам з тым развіваць яго, прадэманстравалі латышы — ансамбль "Мадэна" з невялікага латышскага гарадка з такой жа назвай. Вельмі яскравым быў і расейскі калектыў "Вензеля" з Пензы. Але ў выступах апошняга адчуваецца хутчэй мюзікхольны накірунак, відаць, як сведчанне сённяшняга камерцыйнага часу.

Фестываль скончаны. Але яго канец — гэта ўжо пачатак новых сустрэч, новых танцавальных спатканняў, новых "пярэзваў". Перазвон эпохі мінулай і сучаснай, які шырыцца і звініць на Беларусі, абуджаючы і вяртаючы да жыцця нязгасны народны талент.

**Майя Шэндрык,**
**аглядальнік "ЧЗ"**
**па пытаннях культуры.**

НА ЗДЫМКАХ: моманты танцавальнага свята "Пярэзвы" ў Бабруйску.

Фота аўтара.





# СВЯТА – З ЯКОЙ НАГОДЫ?





Вершнікі ў гусарскіх ківерах і кальчугах, кірасір мінулага стагоддзя з лукам і калчанам за плячыма, пешая раць у адзенні візантыйскіх легіянераў, нямецкіх ландскнехтаў, лучнікоў невядома якіх часоў і народаў... Такое шэсце ў мінулую суботу пад цокат капытоў праследавала па праспектах Скарыны і Машэрава. Менавіта там — ля Палаца спорту і на пляцы Волі — адбывалася галоўная частка свята.

Над усім гэтым відовішчам грымела музыка. Прычым была яна на любы густ — ад "Полацкага сшытку" да цяжкага року і Людмілы Зыкінай.

Па Свіслачы прыплыла "ладдзя" з князем ды княгіняю. Крыху пазней там жа адбылася рэгата.

На імправізаванай спартыўнай пляцоўцы адбылася серыя паядынкаў паміж узброенымі двуручнымі мячамі пешымі ваярамі. Паказалі свае майстэрства верхавой язды навучэнцы Ільянскай абласной дзіцяча-юнацкай спартыўнай школы пры калгасе Абадзеўцы Вілейскага раёна. Было тут і збіванне кубіка, і пераадоленне бар'ераў. Але найбольшую цікавасць гледачоў выклікала конна-спартыўная жаночая гульня "Лісічка".

Не падвёў на гэты раз гандаль. Ежы і пітва хапала. Нават піва было, як казалі продкі, мора разліўное.

Можна б было сказаць: "Ну, вось і адсвяткавалі. Усё як у людзей". Але сказаць так, не пакрывіўшы душою, нельга. Бо цяжка зразумець логіку гарадскіх улад. Што за свята гэта было? Чаму яны сцвярджаюць, што гораду споўнілася 925 гадоў? Так, упершыню назва горада прыгадваецца ў летапісе ў 1067 годзе. Але ж у тэксце гаворыцца не пра тое, што Менск быў закладзены, а пра тое, што ён быў разбураны Яраславічамі. Гэта сведчыць аб тым, што існаваў ён раней, чым трапіў на старонкі старажытнай кнігі. Такім чынам, больш лагічна было б святкаваць угодкі першага прыгадвання горада ў летапісах.

І яшчэ адна заўвага. Дата гэта жалобная для нашага народа. Бо тады не толькі Менск быў разбураны, не толькі ўсе мужчыны былі перабіты, а жанчыны і дзеці ўзяты ў палон. Гэта яшчэ і дата шырокавядомай бітвы на Нямізе. Той самай бітвы, у час якой пацярпеў паражэнне Усяслаў Чарадзей, той самай бітвы, у якой бясслаўна склалі галовы лепшыя ваяры полацкага княства.

Ці ж трэба святкаваць сваё паражэнне?

Мікола Багадзяж.
Фота А. Бірылкі.



# МЫ — НЕФАРМАЛЫ, ФАРМАЛЫ — НЕ МЫ...

*Ці не заўважалі вы, што апошнім часам слова "нефармал" знікла з газетных старонак? Можа, таму, што пакрысе знікаюць з жыцця і самі нефармалы. Дарэчы, а ці былі яны...*

Узгадаем мінулае, не такое, праўда, і далёкае: яшчэ тры-чатыры гады таму ў залежнасці ад накірунку газеты слова "нефармал" ужывалася альбо як лаянка, альбо як адзнака "свойскасці". І ўжывалася нярэдка. "Нефармалы" поўнілі не толькі старонкі газет, але і вуліцы сталіцы. Пікеты, галадоўкі, мітынгі — гэта ўсё яны. Так і паўстае перад вачыма малюнак: юнак з палаючым поглядам трымае ў руцэ плакат на фоне сцяга і гарадской панарамы. Альбо так: малады чалавек з поўнай газетамі кайстрай на плячы і з некалькімі ўзорамі тых самых нефармальных выданняў у руцэ. Дарэчы, пра газеты. Яны зніклі як з'ява разам са знікненнем нефармалаў.

Дык куды ж падзеліся нефармалы? Памерлі, адмовіліся ад сваіх ідэй, з'ехалі? А вось і не. Для ўнясення яснасці раю цікаўным прайсціся па будынку былога ЦК ЛКСМБ, па былых партыйных "апартаментах", па "камсамольскіх" пакоях у ВНУ. Хутчэй за ўсё, там вы і напаткаеце пасталелых за некалькі год, пасур'ёзнелых на выгляд "нефармальных лідэраў". І даведаецеся, што "арганізацыя такая вось" зарэгістравалася за такім нумарам, мае трыццаць (сорак, ну, пяцьдзесят) "сяброў" і статус рэспубліканскай. А перад вамі не хто іншы, як Старшыня (Прэзідэнт, Канцлер) гэтай самай, ні жарты жартаваць, рэспубліканскай структуры. А яшчэ пачуеце, што ў арганізацыі ёсць пячатка, рахунак і нават некалькі штатных супрацоўнікаў. Праўда, складанасці ўзнікнуць, калі зойдзе размова пра справы арганізацыі. Тут пачуеце вы некалькі вельмі арыгінальных думак: па-першае, арганізацыя і рабіла б нешта, і нешта шыкоўнае, каб мела сродкі. "Каб было ў мяне сто (дзвесце, пяцьсот) тысяч", — поўным марам голасам скажа Старшыня (Канцлер, Прэзідэнт). А па-другое, тут жа і дадасць, што паколькі арганізацыя мае такія і такія высокія статутовыя мэты, то дзяржава павінна фінансаваць яе дзейнасць. Забываючы пры гэтым, што "фінансаваць дзейнасць" — гэта проста выкідваць грошы невядома куды. І ў "праклятым буржуінстве", на якое ўсе мы зараз так ахвотна спасылаемся, так не робіцца.

Але ўявім сабе, што дзяржава нам дапаможа. Дапаможа матэрыяльна. Такім чынам, задачка па арыфметыцы: колькі грошай павінна выдзеліць дзяржава на сотню маладзёжных грамадскіх аб'яднанняў, каб іхняя дзейнасць стала відавочнай? А зараз... Ну, па праўдзе кажучы, не лічыць жа сур'ёзным мерапрыемствам рэспубліканскай Арганізацыі наладжаную вандроўку, альбо імпрэзы міжнароднага ўзроўню, праведзеную сумесна з нашымі замежнымі сябрамі з Масквы (Расіі, Украіны, Літвы) вечарынку.

"Дык, што, — можаце мяне спытаць вы, — так нічога і не робяць экс-нефармалы?". "Ну, што вы", — адкажу я.

Робяць, толькі дзеля чаго? Для высокіх статутных мэт? Ну, гэта хутчэй казачка для шэраговых сябраў арганізацыі. Для акладу кіраўніка? Ну, якія там аклады, так, чыста сімвалічныя. Тут узгадаю выраз аднаго ўдзельніка арганізацыйнага камітэта поўнай грамадскай арганізацыі. "Палітычныя партыі ўтвараюцца, каб змагацца за ўладу, а грамадскія аб'яднанні — каб "абламаць халяву".

Якая ж "халява абламаецца" новым "фармалам"? Паездка за мяжу па запрашэнні "арганізацыі падобнага накірунку". А заадно і пара-тройка запрашальнікаў для добрых знаёмых, а заадно і магчымасць аформіць замежны пашпарт "сабе і сябру".

Не забудзем і важныя пункцікі са Статута. Арганізацыя мае права ажыццяўляць камерцыйную дзейнасць — мець фірмы, прадпрыемствы і да т.п. Так што, шаноўныя нефармалы, ствараем "гаспадарча-разліковую адзінку" — і зарабляем. А не можам самі стварыць — не бяда. За адлічэнне прадаставім свой дах таму, хто і сам заробіць, і нас не забудзе.

Немалаважны і маральны аспект. Вядома, быць Старшынёй рэспубліканскага грамадскага аб'яднання больш прыемна, чым, скажам, простым інжынерам (рабочым, студэнтам). Кабінетам "аброс", сядзі і з важным выглядам перакладвай паперкі. Крый Божа, падумаць, што гэта я пра ўсіх. Не, ёсць і сапраўды дзейсныя, функцыянальныя арганізацыі. Яны вызначаюцца і па сваіх статутах. У іх часцей пабачыце радкі — "дапамога", "спрыянне" і "падтрымка", чым "беларусізацыя", "агітацыя" і "прапаганда". Мэты іх меней "высокія", затое болей канкрэтныя: па большай частцы людзі зарабляюць грошы і не хаваюць гэтас. І мерапрыемствы іх можа і не маштабныя і гучныя, але канкрэтныя. І сродкаў у дзяржавы не патрабуюць.

Ізноў вярнуліся мы да дзяржавы і грошай: дзяржава, як гэта робіцца на Захадзе, можа на конкурснай аснове фінансаваць канкрэтныя праграмы арганізацый.

Падкрэслю — канкрэтныя праграмы. Каб не ўзнікла блытаніна, адразу адзначу, што з'езд арганізацыі — гэта не тая імпрэза, якая мусіць фінансавацца з бюджэту (а з чаго ж яшчэ). Гэта — унутраная цяжкасць самой арганізацыі, і калі больш дзейсныя і камерцыйна ўдачлівыя арганізацыі зарабляюць грошы сабе самі, то менш удачлівыя абіваюць парогі "багатых дзядзькоў" з камерцыйных структур альбо з вялікіх прадпрыемстваў.

Я нічога не маю супраць грамадскіх арганізацый. Хай яны будуць, дзейнічаюць, хай будзе і штат, і памяшканні. Толькі плаціць за ўсё павінна не дзяржава, а самі арганізацыі: хоць за кошт членскіх узносаў, хоць за кошт камерцыйнай дзейнасці. Каб не атрымалася таго, за што зараз крытыкуюць КПСС і ВЛКСМ (ЛКСМБ): ажыццяўленне дзейнасці і набыццё маёмасці за кошт дзяржавы, а значыць, падаткаплацельшчыкаў — нас з вамі.

Вось так і жывём, нефармалы фармалізуюцца. А ідэі іхнія — ідэалагізуюцца. Пераўтвараюцца ў тыя ж самыя догмы, за якія так лаюць зараз сумнай памяці КПСС. Як тут па асацыяцыі не ўзгадаць стары міф пра дрэнных бальшавікоў, што вычварылі добрую камуністычную ідэю.

А ідэі, папраўдзе сказаць, былі добрыя. Толькі з ажыццяўленнем не выйшла: задумалі, сабраліся, "перадралі" Статуцік у кагосьці — і наперад, рэгістравацца.

Хаўрус Беларускамоўных студэнтаў БДУ, утвораны восенню, выклікае ў студэнтаў зараз альбо ўсмешку ("Так, ёсць такі, толькі не робіць нічога") альбо здзіўленне ("А што, хіба такі ёсць?"). Дарэчы, гэтая арганізацыя — яскравы прыклад мёртванароджанай грамадскай структуры. І не адзіны прыклад.

Па вялікім рахунку, мне здаецца, што жывём мы яшчэ пры тым самым сацыялізме. І варта ў прамовах новафармальных лідэраў замяніць "беларусізацыю" на "пабудову камунізму", "нацыянальную свядомасць" на "маральны кодэкс будаўніка камунізму", і пачуем усё тыя ж старыя камсамольскія прамовы (нярэдка з тых жа вуснаў). Вось і думайце самі, хто ёсць хто, і што дзеля чаго робіцца. Каб не трапіць пад лозунгам добры . ідэяў у багну новай наменклатуры. Не хочацца думаць, што ў нашай краіны такі лёс, але




абюракрачванне ўсяго мяне палохае. Каб не прыйшлося дажыць да таго часу, калі абвясцяць па зямлі нашай аб "канчатковай перамозе развітога капіталізму і свядомага нацыяналізму".

А пакуль што — "калі арганізацыя ствараецца, значыць гэта каму-небудзь трэба".

**В. Акуліч.**

# ЗАЛОЖНІКІ

## Для паспяховай барацьбы са злачыннасцю не хапае... танкаў.

*Сёння модна параўноўваць нашыя эканамічныя цяжкасці з пасляваеннымі. Але ў нечым мы зараз адкінуты яшчэ далей, у часы ваенныя, калі жыццё магло нечакана абарвацца ў лічаныя хвіліны па акалічнасцях, якія ад цябе не залежаць.*

Гартаючы матэрыялы крымінальнай справы банды Сяргея С., міжволі думаеш, быццам падзеі, апісаныя тут, адбываюцца на акупіраванай тэрыторыі, дзе мірныя жыхары поўнасцю залежаць ад свавольстваў захопнікаў. Скажам, 18 верасня 1990 года пажылыя муж і жонка Т. і М. мірна глядзяць тэлевізар у сябе дома ў Гомелі на вуліцы Прывакзальнай. Званок у дзверы. Жонка адчыняе, яе груба адштурхоўваюць, і трое дужых мужчын урываюцца ў пакой. М. крычыць, але атрымлівае ўдар кулаком па галаве і страчвае прытомнасць. Яе мужа моцна б'юць. Матрацы і падушкі распорваюцца, бялізна з шаф ляціць на падлогу. Звярынага выгляду мужчына з жоўтай каронкай у роце прыстаўляе да горла Т. нож, раз'юшана абяцае зарэзаць яго, калі той не аддасць усе грошы да капейкі.

А праз некалькі дзён Н., пенсіянер, які жыве ў сваім доме ў вёсцы Чырвонае Знамя Буда-Кашалёўскага раёна, прачнуўшыся ноччу ад шуму, бачыць каля сваёй пасцелі чатырох граміл, адзін з якіх б'е гаспадара сякерай па галаве. Апрытомнеўшы, Н. бачыць сваю кватэру абрабаванай.

Праз два дні, 25 верасня 1990 года, Д. — маладая жанчына, якая пражывае ў Мінску па вуліцы Заслаўскай у сваёй кватэры, адкрывае на званок дзверы. Урываюцца пяць мужчын, і пакуль чатыры бесцырымонна капаюцца ў яе рэчах, адзін — з жоўтай каронкай у роце — штурхае Д. у другі пакой і гвалтуе. Нечакана — званок у дзверы. Насільнік прыстаўляе нож да горла жанчыны, і тая вымушана сказаць праз дзверы свайму хлопцу Вадзіму, што той ёй надакучыў, яна яму не адчыніць. На гонар Вадзіма, ён усё ж вяртаецца да дзяўчыны праз гадзіну. Абрабаваная, згвалтаваная і вымушаная пад пагрозай смерці пакрыўдзіць дарагога чалавека (а можа, тым і выратаваць яго), яна ўсё расказвае Вадзіму. Але пошукі міліцыі, якая хутка прыбыла на месца здарэння, — у папярэдніх выпадках розніца ў часе паміж наведваннямі злачынцаў і яе прыходам таксама не перавышала гадзіны, — вынікаў не даюць. Між тым, зусім не асы злачыннага свету працавалі: і слядоў хапала, і сведак у дварах, і прыкметы запомнілі ўсе ахвяры. Але які можа быць старанны пошук, калі ў праваахоўных органаў тыя ж праблемы, што і ва ўсіх, — плацяць ім мала, працаваць цяжка без элементарнай тэхнікі...

Бандытам, зразумела, усё гэта толькі на руку. 18 кастрычніка 1990 года ў акно пенсіянераў Г., якія пражываюць ва ўласным доме ў вёсцы Кудвар Буда-Кашалёўскага раёна, стукае мужчына ў светлай куртцы. Потым выбівае акно. Г. — былы вайсковец і да таго ж паляўнічы — бярэ стрэльбу, выходзіць з жонкай на ганак і бачыць групу граміл у двары. Для пачатку ён страляе ў паветра, але памыляецца. А бандыт у светлай куртцы з жоўтай каронкай у роце, скарыстаўшы гэта, абхватвае жонку ззаду за шыю і прыстаўляе нож да горла. Потым крычыць старому: "Страляй цяпер у сваю бабу". Г. вяртаецца ў дом, зачыняе дзверы, зараджае другую стрэльбу і рыхтуецца стаяць насмерць.

Бандыты звонку крычаць яму: "Давай грошы, а то бабу тваю зарэжам". Але ў пенсіянера іх няма.

Нечакана становіцца ціха. Г. расчыняе дзверы, трымаючы палец на курку. Нагамі да дзвярэй ляжыць яго жонка. Бандытаў не відаць. На сукенцы жанчыны супраць сэрца — чырвоная пляма...

Потым следства высветліла, што забойца (ён жа гвалтаўнік Д., ён жа актыўны ўдзельнік усіх гэтых і многіх іншых нападзенняў, спецыялізаваўся на аглушэнні, здзеках над ахвярамі) — двойчы асуджаны Л. — патрабаваў у Г. ісці, засланяючы яго сваім целам. Тая пачала вырывацца і ён усадзіў нож у сэрца. Бандыт выкручваўся ў час следства, маўляў, у барацьбе са старой страціў раўнавагу, упаў і нож уваткнуўся пацярпеўшай паміж рэбраў. Экспертыза паказала — гэта немагчыма, фантастычна. Забіў цвёрдай рукой і зараней вызначыў удар.

Міліцыя, як ні цяжка пра гэта пісаць, на след бандытаў не выйшла, удзельнікаў нападзення не ўстанавіла, далейшых іх зверстваў не папярэдзіла. Гэта нягледзячы на тое, што Г. усё ж апазнаў у граміле ў светлай куртцы Л., якога шукалі органы міліцыі за ўхіленне ад адміністрацыйнага нагляду — бачыў яго фотаздымак у "Гомельскай праўдзе".

Усяго падобных нападзенняў да таго, як члены банды браты Р. не папаліся на крадзяжы аўтамабіля і тым выпадкова не раскрылі злачынную групу, было за паўгода 45! У Мінску, Гомелі і вобласці, Чэлябінску, Іжэўску, Кіеве, Чарнігаве. Следства цягнулася паўтара года.



Усе члены банды, дарэчы, былі міліцыі добра вядомыя і раней, бо былі асуджаны хто два, хто тры, а хто і чатыры разы. Гэта нягледзячы на іх маладосць. Л. было трыццаць, М. — 28 гадоў, арганізатару і каардынатару банды, які вызначыў яе маршруты, збываў нарабаванае, а сам ні ў воднай акцыі асабіста не ўдзельнічаў, С. — 31 год, братам Аляксандру і Васілю Р. адпаведна 21 і 19 год. Л. пасля другой судзімасці пазбавіўся ад адміністрацыйнага нагляду і спакойна ездзіў па краінах СНД, а, напрыклад, Аляксандр Р., асуджаны ў 1988 годзе трэці (!) раз на 4 гады і 3 месяцы папраўчых работ, з-за гуманнасці нашых праваахоўных органаў і мноства амністый ужо ў 1990 годзе мог бесперашкодна рабаваць і здзекавацца з мірных жыхароў.

Дарэчы, паборнікам лібералізацыі нашай папраўчай сістэмы, якія бачаць у кожным бандыце анёла, якога не зразумелі чэрствыя людзі, цікава будзе даведацца, як Аляксандр Р., які тройчы выхоўваўся ў спецустановах, трапіў у банду. Знаходзячыся ў гасцях у брата Васіля і здагадаўшыся, што той зарабляе на жыццё несумленным спосабам, Аляксандр слёзна, ледзь не на каленях прасіў "брацельніка" прыняць яго ў банду, гэта значыць даць яму магчымасць рэзаць, забіваць і рабаваць. Васіль параіўся з паханом С. — і калі атрымаў "дабро" і сказаў пра гэта Аляксандру, захапленню апошняга не было канца, той закаціў банкет на ўвесь свет. Быццам за баявыя заслугі маршал яго ордэнам узнагародзіў.

Сёння мы ахвотна пагаджаемся з тым, што разгул злачыннасці ўскалыхнуў нашы гарады і весі. Але ставіліся да гэтага звычайна, як да яшчэ адной магчымасці пагаварыць аб недасканаласці нашага грамадства, паказытаць сабе нервы, пазнаёміўшыся з чарговай крывавай гісторыяй. Ніякіх мер па барацьбе з бандытызмам грамадствам практычна не прымаецца. Дэпутаты ад гэтай праблемы адмахваюцца, ды і як інакш, калі многія камуністы-прадпрымальнікі самі з "маліны" выйшлі. Гуманісты розных масцей робяць усё, што ад іх залежыць, каб злачынцам у месцах зняволення жылося лепш, чым інвалідам і састарэлым на волі. Пры кожным павышэнні цэн паёк зняволеных не нясе страты, а ўмовы ўтрымання ўсё мякчэй і не залежаць ад эканамічных цяжкасцей. Абывацель жа, або, як раней яго называлі, "просты савецкі чалавек", лічыць, што, калі асабіста яго злачынцы не закранулі, то і добра. Вось і праходзіць міма душы і розуму заканадаўцаў і выканаўцаў улады факт, што ў мінулым годзе ў рэспубліцы было 11,5 тысячы злачынстваў з цяжкім зыходам. За ўвесь час вайны ў Афганістане загінула 16 тысяч савецкіх воінаў. Лічбы, якія цалкам магчыма супаставіць. Чым не вайна?

Вядома, калі развал эканомікі, падзенне маралі будуць працягвацца, а ўрад будзе адмахвацца ад праблемы абароны грамадзян, банды тыпу вышэйпамянёнай заявяць аб сабе ва ўвесь голас.

Між тым, калі падыходзіць да праблемы сур'ёзна, без жадання пакрасавацца перад мікрафонам за кошт безабаронных грамадзян, то адолець злачыннасць не вельмі цяжка. Дастаткова да барацьбы з ёю падключыць армію. Тым больш, што ёй неабходна ўдасканальваць баявую падрыхтоўку ў мірны час, а хуткага нападзення на суверэнную Рэспубліку Беларусь ні з якога боку не прадбачыцца. Бандыты, забойцы і гвалтаўнікі — сёння куды больш небяспечныя ворагі, чым жыхары бліжэйшых дзяржаў.

А яшчэ — неабходна аддзяліць у месцах зняволення гаспадарчых і бытавых злачынцаў (якія "сарваліся" па рэўнасці, неасцярожнасці і г.д.) ад крымінальнікаў. Бо мы ж ратуем за свабоду асобы. Вось і неабходна перш за ўсё асобу абараняць, а не ідэі, якія мяняюцца па пяць разоў за шэсць гадоў, і нават не дзяржмаёмасць, хоць апошняму таксама неабходна ахова. Да першых, тых, хто, як правіла, не кіруецца звярынымі інстынктамі і законамі крымінальнага свету, можна прымяняць і гуманныя метады перавыхоўвання. Нават неабходна, таму што законы чалавечнасці ім, у агульным, зразумелыя і блізкія. Але пацукі-людзі (выраз А.Салжаніцына ў адносінах да крымінальнікаў) успрымаюць толькі бізун, і ніякіх ілюзій тут не павінна быць.

І, вядома, неабходна забараніць артыкул 103 Крымінальнага кодэкса РБ, які дзейнічае і сёння, які абавязвае ахвяру ні ў якім выпадку не пераступаць пры абароне свайго жыцця правілаў спартыўнага адзінаборства, каб не трапіць за краты. У цывілізаваных краінах грамадзянін, на жыццё якога пасягаюць, можа абараняцца любымі спосабамі і зброяй, што апынуліся ў яго пад рукой, і калі пры гэтым заб'е бандыта, за гэта яго не асудзяць.

Ну а пакуль членам банды С. належыць правесці нейкі час у гуманізаваных умовах папраўчага лагера. Калі нічога не зменіцца, дзякуючы поспехам дэмакратыі ў справе пакарання крымінальнікаў яны выйдуць яшчэ поўнымі жадання і энергіі рабаваць, рэзаць і забіваць.

Л.ГРЫГАРОВІЧ,
намеснік загадчыка аддзела
па асабліва важных справах
пракуратуры Рэспублікі Беларусь,

Б.САФРОНЕНКА.

### НАШ КАМЕНТАРЫЙ:

Друкуючы матэрыял "Заложнікі", рэдакцыя лічыць неабходным удакладніць, што не цалкам падзяляе погляды яго аўтараў, асабліва тэзіс аб прыцягненні войска да вырашэння праблемы злачыннасці. Аднак нельга не згадзіцца і з тым, што ніякай прынцыпова новай канцэпцыі барацьбы грамадства і праваахоўных органаў са злачыннасцю ва ўмовах дэмакратычнай суверэннай дзяржавы на Беларусі не выпрацавана, у той час як старая – заідэалагізаваная – разбураецца.

Таму мы абавязкова працягнем тэму, узнятую сёння, у наступных выпусках "Крымінальнага бюро".

У бюро дзяжурыў П.Сіманаў.



## Умовы завочнага клуба знаёмстваў

Разам з пісьмом у рэдакцыю неабходна даслаць квітанцыю аб аплаце: за кожны адрас зацікавіўшага вас абанента або ліст да яго — два рублі. Калі вы хочаце ўбачыць надрукаваным у "Перапісцы" толькі свой адрас — 15 рублёў. За пісьмо, змешчанае ў рубрыцы знаёмстваў,— 50 рублёў.

Грошы пералічваюцца на разліковы рахунак "Чырвонай змены" № 345480 (код 811) у Беларускім прамыслова-інавацыйным банку г.Мінска, за межамі рэспублікі — № 811161700 у Гарупраўленні Дзяржбанка г.Мінска МФО 400417, абавязкова з паметкай "Перапіска" (гэта можна зрабіць у любым паштовым аддзяленні або ў ашчадным банку).

Рэдакцыя прадастаўляе льготы ваеннаслужачым. Яны могуць уносіць або не ўносіць плату па ўласнаму жаданню. Але друкуюцца ў першую чаргу лісты, да якіх прыкладзена квітанцыя.

Рэдакцыя пакідае за сабой права рэдагаваць тэксты пісьмаў пры падрыхтоўцы да друку. Пісьмы без зваротнага адраса друкавацца не будуць.

### *Давайце пазнаёмімся*

* * *

"Так склаўся лёс, што мы апынуліся ў месцах пазбаўлення волі. Ні для каго не сакрэт, што многія з нашага грамадства глядзяць на нас, як на смецце, але мы спадзяёмся на тое, што прымаўка "Свет не без добрых людей" — не пустыя словы, і ваша газета дапаможа нам знайсці надзейных спадарожніц жыцця, якія змогуць нас зразумець і ў цяжкую хвіліну падтрымаюць нас, не дадуць пасці духам.

Цяпер напішам крыху пра сябе: мы ў многім падобныя адзін на аднаго. Як аднаго, так і другога завуць Дзмітрыем, нам па 20 гадоў, захапляемся спортам, любім чытаць мастацкую літаратуру.

Наш рост 170-172 см, абодва брунеты, нам уласціва пачуццё гумару. Да гэтага няма чаго дадаць. Спадзяёмся, што з дапамогай вашай газеты мы знойдзем верных спадарожніц жыцця.

Зараней удзячны. З павагай *Шаўко Дзмітрый, Паўлюць Дзмітрый*".

* * *

"ЧЗ", вітаю вас!

Мяне завуць Марк (24-182-79). Казярог. У шлюбе не быў. Сэнс жыцця, на мой погляд, у кайфе, медытацыі...

Кансерватар. Прыхільнік бяскроўных зносін. Падтрымліваю БНФ і НДПБ. Мару аб тым, каб Літва (Беларусь) сталася лідэрам сярод краін Еўропы. Мой жыццёвы прынцып — "непротивление добру".

Падабаюцца калектывы: "Мроя", "Бонда", "Уліс", "Крама", "Мясцовы час", "Песняры" (стары склад), "АВВА", "Боні М", "KISS", "Лед Зепелін", "Статус кво" і іншыя, выканаўцы — С.Сокалаў-Воюш, В.Шалкевіч, А.Шадзько, Д.Дасэн, Ю.Лаза, І.Карнялюк.

Каго цікавяць іншыя падрабязнасці, пішыце на адрас: *246027, Гомель-27, п/с 97, Марку*".

* * *

"Паважаная рэдакцыя!

Спадзяёмся, што з вашай дапамогай адзін вельмі добры чалавек знойдзе сваё шчасце. Гэта мая сяброўка. Яна: 28/167, адукацыя вышэйшая, добрая, чулая, прыемнай знешнасці, шатэнка, крыху паўнаватая, але гэта яе не псуе. Замужам не была.

Калі знойдзецца добры, самастойны мужчына да 35 год, абыякавы да спіртнога, які жадае мець верную жонку з добрым, пяшчотным сэрцам, няхай адгукнецца. Усе лісты, прыйшоўшыя на маё імя па гэтаму адрасу, трапяць ёй у рукі нераскрытымі.

*212001, Магілёў-1, а/с 12, Шпілеўскай Людміле Мікалаеўне*".

* * *

"Сімпатычная, інтэлігентная дзяўчына 24 год пазнаёміцца з інтэлігентным маладым чалавекам без шкодных звычак, не быўшым раней у шлюбе. Можна з іншаземцам.

*Абанент № 26*".

* * *

"Добры дзень, паважаная рэдакцыя!

Вельмі прашу апублікаваць у рубрыцы "Перапіска" мой ліст.

Спадзяюся на сустрэчу з добрым, сур'ё ным у адносінах да сямейнага жыцця, без шкодных звычак мужчынам ва ўзросце да 35 гадоў, які стаў бы апорай у жыцці і меў бы патрэбу ў маёй цеплыні і пяшчоце.

У людзях цаню дабрыню, вернасць, сціпласць, сілу характару.

Мне 28 гадоў, прыемнай знешнасці, адукацыя вышэйшая, філолаг, замужам не была, без шкодных звычак, характар мяккі, гаспадарлівая.

Пасля размеркавання жыву і працую ў вёсцы настаўніцай. Просьба з месцаў зняволення і дзеля забавы не пісаць.

Мой адрас: *211949, Віцебская вобл., Міёрскі раён, вёска Слабада, Белавус Раіса*".

* * *

"Паважаная "Перапіска!"

Піша вам Мікалай. Пастаянна выпісваю і чытаю вашу газету. І вось у адным з нумароў даведаўся аб завочным клубе знаёмстваў, вырашыў напісаць вам з надзеяй, што вы зможаце зразумець мяне і дапамагчы, як і многім іншым. Мне 36 гадоў. Адбылося так, што ў сваім жыцці я застаўся адзінокім. І якое нялёгкае гэта адчуванне — адзінота. Пражыта палова жыцця, а колькі памылак, якіх нельга дараваць нават самому сабе. Гавораць, што на памылках вучацца, але ж не ўсё жыццё вучыцца. Вось зараз я ў месцах пазбаўлення волі. Для родных і блізкіх, з якімі дзяліў у жыцці ўсё, я ўжо як быццам бы не існую. Але як хочацца спадзявацца, што не ўсё страчана. І калі ёсць на свеце тая, адзіная, якая зможа зразумець мяне, зразумець па-сапраўднаму, як чалавека, узамен аддам усё тое добрае, аб чым мару. Вельмі спадзяюся на вашу дапамогу і прашу змясціць маё пісьмо ў вашай рубрыцы знаёмстваў.

З глыбокай павагай да вас Мікалай.

Мой адрас: *211030, Віцебская вобл., г.Орша, УЖ-15/12-7. Мігаль Мікалай*".

### *Шукаю сяброў:*

* * *

"Паважаная "Перапіска". Мне 23 гады, у мяне паніжаны слых. Знешне — сімпатычны, добры, інтарэсы разнабаковыя. Спадзяюся на знаёмства з дзяўчынай 18-25 гадоў.

Мой адрас: 213600, г.Клімавічы, вул.Леніна, 76-55. Ісачэнка А.Н."

* * *

"Адзінокі мужчына (40/172/67) пазнаёміцца з жанчынай. Мае жыллёвыя праблемы.

*220015, Мінск, вул.Бельскага, д.25, кв.46. Аляксандр*".

### *Ад "Перапіскі":*

Паважаныя чытачы! Вельмі прыемна, што вы па-ранейшаму працягваеце сябраваць са мной. Але, на жаль, сённяшнія жыццёвыя ўмовы вызначаюць і ўмовы нашага з вамі сяброўства: толькі пры наяўнасці ў канверце з пісьмом квітанцыі аб паштовым пераводзе на суму 50 ці 15 рублёў, вашы лісты з'явяцца на старонцы "Перапіска".

**"Перапіску" вядзе Майя Шэндрык.**
*Тэл. 32-50-01.*

## КІНААФІША

### "Расстанемся, пакуль добрыя"

Гэтую новую каляровую мастацкую кінастужку стварылі сумесна кінастудыя "Масфільм" і акцыянернае грамадска-вытворча-творчае аб'яднанне "Піраміда-Менатэп". У аснову сцэнарыя пакладзены расказ Фазіля Іскандэра "Дудка старога Хасана". Пастаноўку карціны ажыццявіў рэжысёр Уладзімір Матыль, добра вядомы гледачам па фільмах "Белае сонца пустыні", "Зорка чароўнага шчасця", "Лес".

На гэты раз рэжысёр прапануе гледачам прыгодніцкую прытчу. Ёсць у карціне элементы вестэрна і рамантычнай легенды. Востры канфлікт працінае абедзве серыі фільма. Адстойваючы годнасць, герой фільма Баграт забівае абражальніка і вымушаны хавацца ў гарах. Але ён не можа пайсці далёка: у сяленні засталіся дзве ягоныя сястрысіраты, якіх няма каму абараніць. Баграту ў фільме даводзіцца абараняць не толькі родных. Ён выратаваў ад грабіцеляў грэка-купца. Ратуе такіх жа, як ён, бадзяг ад шыбеніцы. Ратуе каханую сваю Наалу разам з яе бацькам ад гвалтаўнікоў-казакоў, нягледзячы на тое, што гэтая жанчына, якую ён кахае, выйшла замуж за іншага...

У галоўных ролях здымаліся Георгій Дарчыашвілі, Людміла Патапава, Сяргей Максімаў, Галіна Умпелява, Уладзімір Січкар, Нана Андранікашвілі.

### "Вярбоўшчык"

Так называецца новая каляровая мастацкая кінастужка, створаная рэжысёрам Эдуардам Гаўрылавым на кінастудыі "Ментар-сінема" па сцэнарыю, напісанаму ім у садружнасці з Юрыем Маславым.

Ваенны лётчык Алег Зораў, які трапіў у палон пад час блізкаўсходняй вайны і працаваў на працягу дваццаці гадоў на ЦРУ, апантаны ідэяй вярнуцца на Радзіму. Ён вырашыў выкарыстаць прадастаўлены яму шанц трапіць у Расію ў якасці агента амерыканскай разведкі і здацца ўладам.

Між тым амерыканскаму рэзідэнту Логінаву (ён жа шмат гадоў жыве ў Маскве пад выглядам цырульніка) становіцца вядома, што Зораў, з якім ён падтрымлівае сувязь, мае нейкія зносіны з КДБ. Логінаў загадвае свайму памагатаму — крымінальніку Кузіну — забіць Зорава...

У фільме зняты папулярныя кінаакцёры Аляксандр Міхайлаў, Любоў Паліщук, Спартак Мішулін, Валянцін Смірніцкі, Барыс Токараў.

### "Сканеры II: новы парадак"

Карціна створана амерыканскімі кінамайстрамі. Яна пастаўлена рэжысёрам Крысціянам Дзюбуа.

Вечная і захапляльная тэма барацьбы дабрыні і зла, асабліва цікавая тым, што барацьба гэтая адбываецца паміж людзьмі з незвычайнымі здольнасцямі — сканерамі. Дынамічны сюжэт, захапляльныя спецэфекты, камбінаваныя здымкі, арыгінальны высокапрафесіянальны грым дапамагаюць таленавітым акцёрам трымаць гледача ў пастаянным і ўзрастаючым да канца фільма напружанні. У гэтым фільме ўсё ёсць — каханне і барацьба, жахі і трукі, і, нарэшце, хэпі-энд. Фільм выйшаў на экраны Амерыкі, Канады і іншых краін напачатку 1991 года і вызначаецца высокім касавым прыбыткам.

Галоўныя ролі выконваюць Дэйвід Х'юлет, Дэбора Рафін, Іван Понтан.

### "Лепшыя з лепшых"



Гэты каляровы мастацкі фільм таксама зняты кінематаграфістамі ЗША. Аўтар сцэнарыя — Пол Левін, рэжысёр — Боб Рэдлер.

Пяць лепшых спартсменаў амерыканскай зборнай па каратэ рыхтуюцца да сусветнага чэмпіянату. Іх будучыя сапернікі — спартсмены Паўднёвай Карэі. Аднаго з амерыканскіх хлопцаў чакае схватка з мацнейшым барцом, які забіў на мінулых спаборніцтвах яго старэйшага брата.

Неабходна адзначыць высокі клас здымак баёў каратыстаў, ролі якіх выконваюць прафесійныя спартсмены.

Галоўных герояў граюць Эрык Робертс, Джэймс Эрл Джонс, Салі Кёрклэнд і іншыя.

Дзяжурны рэдактар П. СІМАНАЎ.

Мастацкае афармленне нумара В. ДУБОВІКА.

ЧЫРВОНАЯ Змена

Заснавальнік: ЦК ЛКСМБ
Выдавец: газетна-выдавецкая фірма "Белая Русь"
Газета ўзнагароджана ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.
АДРАС рэдакцыі: 220041, г.Мінск, праспект Скарыны, 77.
ТЭЛЕФОНЫ: 32-13-54, 32-50-01.
Газета набрана і звярстана ў наборна-выдавецкім бюро "ЧЗ".
Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку", г. Мінск.
Індэкс 63906. Тыраж 17 000.

Галоўны рэдактар Уладзімір БЕЛЬСКІ.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ: Алена АГІБАЛАВА, Сяргей БАЛЦЭВІЧ (адказны сакратар), Валерый ВАРАНЕЦКІ, Валерый ІВАНОЎ, Алег КАМІНСКІ (першы нам. гал. рэдактара), Віктар ЛЮКОВІЧ, Мікалай ЛАРКОВІЧ, Алесь МАСАРЭНКА, Станіслаў НІЧЫПАРОВІЧ, Алесь ПАЛЫНСКІ, Наталля ПЛЫТКЕВІЧ, Павел СІМАНАЎ (нам. гал. рэдактара), Алег СЛУКА, Кузьма ШАПЛЫКА.



Зак. № 23.
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12